PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 36 (1947) ГОД XXXVIII | БЕЛАСТОК 5 ВЕРАСНЯ 1993 г. | ЦАНА 3000 зл.



*Сучасная гравітацыя цягне маладых у горад, пакідаючы родны кут адвечнаму закону Ньютана.*

**Фота А. Вярбіцкага**

## АБ ЧЫМ ВУЧАЦЬ ПАРЛАМЕНЦКІЯ ВЫБАРЫ 1991

Набліжаецца дзень новых выбараў. Усё хутка мяняецца і колішнія выбары могуць здавацца ўжо прагісторыяй. Тым не менш, варта разабрацца ў выніках выбараў ад 1991 г., каб зрабіць высновы на сёлетнія выбары. Выбарчая статыстыка можа тут паслужыць надзейным дапаможнікам.

Першае, што кідаецца ў вочы — гэта несумяшчальнасць вынікаў выбараў у Сейм і Сенат (гл. табліцы на 4 стар.) *. Аднак, улічыўшы тое, што ў Сейм кандыдаваў В. Цімашэвіч, усё тлумачыцца вельмі проста. Бальшыня „нашых людзей" прагаласавала за „свайго хлопца" — Валодзьку, не слухаючы ні заклікаў беларускіх „нацыяналістаў", ні казанняў праваслаўных святароў. Прагаласаваўшы за Цімашэвіча, людзі супакойвалі сваё патрыятычнае і рэлігійнае сумленне, аддаючы голас у выбарах у Сенат на „беларуса" або „праваслаўнага". Пішу так, бо ані беларускі кандыдат Ян Чыквін, ані праваслаўны Мікола Ваўранюк практычна ніякай выбарчай кампаніі не правялі. Такім чынам трэба лічыць, што аддадзеныя за іх галасы ішлі на спісак, а не на асобу.

Не можам аднак не заўважыць, што як Выбарчы камітэт праваслаўных (ВКП), так і Беларускі выбарчы камітэт (БВК) забралі В. Цімашэвічу шмат галасоў. Відаць гэта ў параўнанні вынікаў галасавання ў Сейм з вынікамі ранейшых прэзідэнцкіх выбараў (гл. табліца 1). У некаторых гмінах Цімашэвіч страціў мала што палову галасоў, якія поўнасцю пайшлі на спіскі ВКП і БВК.

Другое, што паказвае аналіз абедзвюх табліцаў, гэта існаванне выразна апрычонага тэрытарыяльнага ядра беларушчыны на Беласточчыне — не толькі ў этнічным, але і свядомасным сэнсе. Няма сумненняў, пачэснае месца застаецца тут за гмінай Нарва — 16,4 % галасоў за БВК у выбарах у Сейм гэта ўжо нямала (нават улічыўшы тое, што ўраджэнцам гэтай гміны быў лідэр спіска БВК Віктар Стахвюк), пагатоў што беларускі кандыдат у Сенат выйграў тут як з кандыдатам праваслаўных, так і посткамуністаў, набіраючы больш за палову галасоў.

Далей ідуць гміны: Дубічы-Царкоўныя, Чыжы, Гарадок, Нараўка, гміна і горад Бельск, гміна і горад Гайнаўка і Орля. (Пры нагодзе адмецім, што Орля з'яўляецца таксама самай „чырвонай" беларускай гмінай. Толькі што тут з кандыдатамі БВК і ВКП выйграў не толькі Цімашэвіч, але і Плева).

Менавіта гэтых 10 гмінаў і стварае беларускае ядро, што і без выбараў было вядомым. Аднак беларускі кандыдат у Сенат выйграў з іншымі таксама і ў паўднёвых гмінах, такіх як Кляшчэлі, Чаромха і Мілейчыцы, у дзвюх першых набіраючы больш за палову галасоў. Добра выпалі для БВК таксама сенацкія выбары ў гмінах Нурэц-Станцыя і Мельнік.

Трэцяе, мала што 60 працэнтаў сваіх галасоў атрымаў БВК у трох гарадах: Беластоку, Бельску і Гайнаўцы. Таксама ВКП і Sojusz Lewicy Demokratycznej (СЛД) атрымалі бальшыню сваіх галасоў у гарадах, але бальшыня гэтая не была ўжо так выразнай, як у выпадку БВК.

Гэта паказвае наяўна, што беларуская этніка ўжо болей гарадская чым вясковая ды якраз сярод гараджан беларускія нацыянальныя ідэі ўспрымаюцца лепей чымся між вяскоўцамі.

Чацвертае, — пытанне выбарчай прысутнасці, якая ў беларускіх гмінах была наогул ніжэйшай, чымся сярэдняя для ваяводства. Прычыну гэтай з'явы трэба бачыць не ў меншай палітычнай актыўнасці беларусаў, але ва ўстарэласці насельніцтва нашых вясковых гмінаў ды ў іхняй цывілізаванай адсталасці (дарожнай сістэмы і транспарту). Падобна было і ў польскіх вясковых гмінах. Гарады з адметнай беларускай этнікай прагаласавалі не горш за польскія.

Вынікі выбараў дазваляюць прыблізна ацаніць колькасць беларускіх (праваслаўных) выбаршчыкаў на Беласточчыне.

Калі прыняць, што ў час выбараў у Сейм і Сенат без малога ўсе беларусы галасавалі на тры спіскі: БВК, ВКП і сацыял-дэмакратаў (СЛД) — няма ніякіх асноваў, каб думаць інакш, бо ў чыста беларускіх гмінах кандыдаты з іншых спіскаў атрымалі смешную колькасць галасоў — атрымліваем 32627 у 27 беларускіх гмінах па-за Беластокам. У гэтай лічбе будуць і палякі, але вельмі мала, бо ў карэнна польскіх гмінах Беласточчыны галасавала за Цімашэвічам менш як 5 працэнтаў выбаршчыкаў. Колькасць галасоў аддадзеных за СЛД палякамі ў разгляданых 27 гмінах праўдападобна раўнаважыцца з галасамі аддадзенымі беларусамі па-за згаданай тэрыторыяй.

Улічыўшы, што ў выбарах прыняло ўдзел каля 40 працэнтаў усіх беларускіх выбаршчыкаў атрымоўваем агульны лік патэнцыяльных беларускіх выбаршчыкаў па-за Беластокам — каля 82000.

Беласток — гэта асобнае пытанне. На маю думку нельга лічыць усіх галасоў СЛД у Беластоку (15 тысяч на Цімашэвіча) беларускімі галасамі. Беласток, як ваяводскі цэнтр — гэта таксама цэнтр былой камуністычнай наменклатуры — і створанага камуністамі вялікапрамысловага рабочага класа, дык дзіўным было б, калі б ніхто з палякаў не прагаласаваў тут за „лявіцу". У ваяводскіх Сувалках на спісках СЛД прагаласавала 19,2 працэнта выбаршчыкаў (а там жа ж няма беларусаў), у той час, як у Беластоку ўсяго 17,4 %. Адзначым таксама, што ў сенацкіх выбарах Сяргей Плева атрымаў без малога столькі галасоў, што і Цімашэвіч ды столькі, колькі кандыдаты БВК і ВКП разам узятыя. Гэтым часам Ян Чыквін і М. Ваўранюк у беларускіх гмінах выйгралі з Плевай у некалькі разоў. Думаю, што не будзе вялікай памылкай, калі палічу палову галасоў аддадзеных у Беластоку на „лявіцу" польскімі галасамі. Такім чынам, дадаю-

☞ *Працяг на стар. 4*

## БАРАЦЬБА ЗА ВУЧНЯЎ

Васьмікласную Пачатковую школу ў Вялікіх Тыневічах Нараўскай гміны зліквідавалі ў 1975 годзе. Вучняў, ад пятага класа, пачалі вазіць у Кленікі, што ў суседняй Чыжоўскай гміне. Людзі крыху панаракалі, што ў свой час не пабудавалі ў вёсцы новай школы, г. зв. „tysiąclatki", але неўзабаве звыкліся з такой сітуацыяй, бачачы яшчэ і тое, як хутка меншае дзяцей — праз некалькі гадоў ужо іх і на аўтобус было малавата.

Школа ў Тыневічах, як філіяльны пункт кленіцкай — спачатку 4-класная, потым 3-класная — праіснавала да чэрвеня гэтага года. Цяпер, у сувязі з пераходам школьніцтва ў распараджэнне самаўрадаў, зноў рубам стала пытанне — дзе будуць вучыцца дзеці з Вялікіх і Малых Тыневіч і з суседняй Лапухоўкі. У такой жа самай сітуацыі апынуліся дзеці з Гародчына, Ляхоў, Козлікаў. Усе гэтыя нараўскія вёскі пасылалі дзяцей у чыжоўскія Кленікі.

У Нарве ў міжчасе пабудавалі новую школу, прыстасаваную, што і казаць, да сучасных метадаў навучання, з вялікай гімнастычнай залай, са спецыялістычнымі кабінетамі, з кухняй і амбулаторыяй. Вучыцца ў ёй тры сотні дзяцей, а можа змясціцца яшчэ столькі ж. Войт Ян Тапалянскі запрапанаваў, каб дзяцей з яго гміны давозіць у Нарву. Аднак гэта прапанова была сустрэта непрыхільна, перш за ўсё бацькамі, але таксама дырэкцыяй школы ў Кленіках і ўладамі Чыжоўскай гміны.

Канфлікт развіваўся на двух узроўнях. На адным быў інатрэс дзяцей — у разуменні іхніх бацькоў, — каб як найзручней было даязджаць, каб не мянялі яны асяроддзя. Другі ўзровень, гэта канфлікт між суседнімі гмінамі за душы (чытай: за грошы). Міністэрства нацыянальнай адукацыі даплачвае школам пэўную суму за кожнага вучня. Прадбачваецца, што ў наступным годзе міністэрская датацыя на адно дзіця складзе суму каля 10 мільёнаў злотых. „Канфліктных" дзяцей — 61, што, як лёгка падлічыць, дае школе 600 мільёнаў у год. Гэта для школы (і для гміны) ужо смачны кусок.

Апрача таго, у кленіцкай школе, калі адыдуць з яе тыневіцкія і гародчынскія дзеці, не хопіць вучняў для яе нармальнага функцыянавання. Давядзецца тады спалучаць класы, звальняць настаўнікаў.

Людзі ў Тыневічах, як адзін, выказаліся за Кленікамі. Сабраліся і напісалі петыцыю войту Чыжоўскай гміны, каб ён надалей арганізаваў бясплатны давоз дзяцей. Войт Рыгор Мацкевіч пагадзіўся на гэта, хаця казалі, што ў некаторых вёсках гміны жыхары бунтаваліся, маўляў, чаму з нашых падаткаў маюць ісці грошы на дзяцей з чужой гміны. Каб неяк залагодзіць гэтую справу, жыхары Тыневіч два дні працавалі ў Кленіках, кладучы там тратуары. Такім чынам зашчадзілі сродкі з гміннага бюджэту на давоз сваіх дзяцей у тамашнюю школу.

Хаця бацькі рашыліся на Кленікі, няўпэўненасць працягвалася амаль да 1 верасня. 23 жніўня ў Тыневічах праходзіла сустрэча войта Яна Тапалянскага з зацікаўленымі бацькамі (былі чамусьці самыя маці). Войт быў гатовы адказаць на ўсе пытанні, растлумачыць няясныя справы. Але, хаця найбольш чулася галасоў тыпу: „куды ўсе пашлюць дзяцей, туды і я", быццам усё было яснае — раз заявілі, што хочам у Кленікі, дык мяняць рашэнне было б несур'ёзна. Не да канца зразумелай была бадай адна

☞ *Працяг на стар. 6*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*My już nikomu nie wierzymy, a już szczególnie temu... Krawczukowi — mówili mi używając słów to polskich, to ukraińskich. Obiecywali nam tu złote góry jak tylko nastanie „Samostijna" Ukraina. Bardziej wstrząsający niż jakiekolwiek opowiadanie, był widok dzieci z Bachczysaraju — białe, słowiańskie, z blond włosami i jasnymi oczami, żebrzących o kilka kuponów lub najchętniej o jednego ciepłego czyburika (potrawa przypominająca trójkątny naleśnik z mięsem).*

*Jedyne, co może się na Ukrainie spodobać, szczególnie ekologom, to brak pojazdów spalinowych oraz nie dymiące już fabryki. W związku z niesłabnącym napięciem w stosunkach Kijów—Moskwa i de facto sparaliżowaniem wymiany gospodarczej — Ukraina wkrótce być może stanie się krajem stuprocentowo czystym ekologicznie. (...)*

*Egzotycznie na tle ponurych i źle ubranych mieszkańców Ukrainy, których karmi się tylko nacjonalistycznymi hasłami i obietnicami, wygląda grupa młodzieży, wracająca do domu z wciąż funkcjonującego obozu „Artek". Rozśpiewani, weseli, nieźle odżywieni — obywatele bogatszej i dużo mądrzej rządzonej Białorusi.*

*(Trybuna, nr 186, 11 sierpnia 1993 r.)*

Вось вам і выснова: лепш есці *чыбурыкі*, чым *самасційнасць*. У якасці ілюстрацыі гэтай неабвержнай праўды служаць беларусы. Ну што ж, каму ўжо беларусы не служылі?! Аднак жа ў гэтым кантэксце нават беларусы не ў змозе падтрымаць тэзіс, што лепш Савецкі Саюз з лагерам „Артэк", чым самастойная Украіна. „Трыбуна" хоча заставацца экзатычнай газетай на фоне панурых і кепска інфармаваных выданняў у Польшчы. Няхай застаецца.

* * *

*Редакція Українського часопису Підляшша „Над Бугом і Нарвою" вітае нашого письменника Василя Петручука з його прийняттям у Союз польских письменників та бажае нових успіхів і досягнень на українській літературній ниві, а також багатьох літ життя в доброму здоров'і.*

*(Над Бугом і Нарвою, н-р 2(6))*

Васіль Петручук — украінец. А я — кітаец. Але тако ж пішу па-беларуску. І, відаць, непазбежна траплю на ўкраінскую літаратурную ніву. Усё-такі думаю, хто перакладзе „Пожню" на ўкраінскую мову.

* * *

*15.06 w Białymstoku powołano Komitet Wyborczy Prawosławnych, w skład którego weszły następujący organizacje: Bractwo Prawosławne, Związek Ukraińców Podlasia, ... (...)*

*(Над Бугом і Нарвою, н-р 2(6))*

Związek Ukraińców **увайшоў і выйшаў. Чаму выйшаў — даведаемся, пэўна, у наступным нумары гэтага выдання. Але ўжо сёння можна сказаць, што выйшаў гэты** Związek **з увагі на інтрыгі Сталіна і Гітлера, якія над Бугам і Нарваю наствaралі беларусаў (несвядомых украінцаў).**

* * *

*Wszystkie dotychczasowe sondaże opinii publicznej pokazują, że bez BBWR nie uda się stworzyć żadnej koalicji rządowej. BBWR może być więc tym elementem dowolnej właściwie koalicji, dzięki któremu prezydent Wałęsa będzie mógł tworzyć i obalać rządy. Zdumiewa łatwość, z jaką nasza tzw. klasa polityczna oddała pole Belwederowi (...).*

*(Polityka, nr 33)*

* * *

*Ubóstwo pcha do prostytucji kobiety w średnim wieku, które decydują się tą drogą ratować domowy budżet. Ostatnio poznałam dwa przypadki z Krakowa: pewien mąż wysłał żonę na ulicę, bo inaczej nie byli w stanie spłacać kredytu bankowego, a pewna wcześniej emerytowana nauczycielka dorabia do głodowej emerytury. Wśród młodych dziewczyn — często licealistek — prostytucja jest wyborem i manifestacją postawy życiowej. Jestem dorosła, robię bez skrępowania to, co chcę, bo tak mi się podoba. Na ulicy spotyka się je rzadko, chociaż mieliśmy informacje, np. z Katowic, że po masowych redukcjach w zakładach pracy niektóre rodziny zaczęły wysyłać córki na ulice. Najmłodsza dziewczynka, oferująca tam swoje usługi, miała 12 lat.*

*—Ile kobiet uprawia w Polsce prostytucję?*

*Nie rejestrujemy prostytutek; szacujemy tylko, że ok. 10 tysięcy kobiet zajmuje się tym stale. W Polsce przebywają także prostytutki rosyjskojęzyczne. Ich liczba jest płynna — tysiąc, półtora tysiąca. Jedne przyjeżdżają, inne przemieszczają się na zachód Europy.*

*(Polityka, nr 33, wywiad z Wiesławą Sztylkowską, podinspektorem w Komendzie Głównej Policji)*

* * *

***Нацыянальны банк Беларусі падрыхтаваў праект пастановы, у адпаведнасці з якой з 15 жніўня на тэрыторыі краіны адзіным плацёжным сродкам стануць „зайчыкі". Праект дакумента перададзены на зацвярджанне ва ўрад і парламент, аднак, калі ён будзе падпісаны, пакуль невядома. „Чорны рынак" адрэагаваў на „ўцечку інфармацыі" адразу: за долар просяць ужо больш за дзве тысячы „зайчыкаў", а за 1000 расійскіх рублёў — 1800 „зайчыкаў". Калі беларускія грошы гэтак жа хутка абясцэньваюцца, то гэта, пэўна ж, камусьці трэба...***

*(ЛіМ, 13 жніўня 1993 г.)*

# З мінулага тыдня

**Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын** пабываў у Польшчы з двухдзённым афіцыйным візітам. У яго выніку прэзідэнты абодвух краін падпісалі супольную польска-расейскую дэкларацыю, у якой выказваюць задавальненне з эфектаў цяперашняй сустрэчы і надзею, што прынятыя вырашэнні і падпісаныя ў яе ходзе дакументы паспрыяюць паглыбленню супрацоўніцтва і пашырэнню яго на іншыя галіны жыцця. Адзначаючы існаванне неўрэгуляванага пытання ўзаемнай задоўжанасці, прэзідэнты пагаджаюцца, то трэба як найхутчэй знайсці яго канчатковае вырашэнне. Правільна ацэньваючы шырокія магчымасці польскай і расейскай рыбапрамысловасці і суднабудаўніцтва, прэзідэнты паказваюць на неабходнасць новага польска-расейскага пагаднення ў гэтых галінах. Прызнаючы вялікае значэнне супрацоўніцтва ў выкарыстанні Віслінскага заліва, уключна з суднаходствам, для рэгіянальнага развіцця, прэзідэнты прымуць меры, каб адпаведныя ведамствы падрыхтавалі патрэбныя пагадненні ў гэтай справе да канца гг. Прэзідэнты паказваюць на неабходнасць аднавіць традыцыйны гандлёвы абмен і з гэтай мэтай загадваюць вярнуць практыку падпісваць кожны год гандлёвы пратакол. Разумеючы аграмаднае значэнне для палякаў і рускіх аховы мемарыяльных месц ахвяр войнаў і рэпрэсій, прэзідэнты падкрэсліваюць неабходнасць скорага падпісання дамовы „Аб ахове магіл і мемарыяльных месц ахвяраў войнаў і рэпрэсій".

Пасля падпісання трактата аб гандлі і гаспадарчым супрацоўніцтве прэзідэнт РП **Лех Валэнса** сказаў, што падпісаныя дакументы — гэта доказ нашай волі працягвання супрацоўніцтва паміж Расіяй і Польшчай, супрацоўніцтва, якое пачалося год таму з заключэння палітычнага трактата і важных пагадненняў. Яны, менавіта, адкрылі новы этап у нашых адносінах, стварылі фундамент пад іх новы кшталт, прыдалі новым кантактам партнёрскі характар. Прэзідэнт Барыс Ельцын дабавіў, што ў новых расейска-польскіх адносінах няма месца для гегеманізму і дыктату ці псіхалогіі старэйшага і малодшага брата. Прынцыпы новых адносін — гэта пашанаванне суверэнітэту, неўмяшанне, раўнапраўнасць і партнёрства, узаемная ўвага да жыццёвых інтарэсаў народаў абедзвюх дзяржаў.

Падчас візіту абодва бакі падпісалі сем дагавораў і пагадненняў.

**Каталіцкі выбарчы камітэт „Ojczyzna"** правёў публічную кампанію наконт увядзення ўязных візаў для грамадзян рэспублік былога СССР. Кампанія, накіраваная да палякаў, пачалася на Цэнтральным вакзале ў Варшаве, дзе найбольш наглядна бачны ўсе праблемы, якія вынікаюць з некантраляванага перасякання нашай усходняй граніцы грамадзянамі былога Савецкага Саюза. На думку прэс-сакратара камітэта „Ojczyzna" выклікае яно злачыннасць, вываз валюты, а апошнім часам — распаўсюджванне хвароб.

**Беларускі спартсмен Аляксандр Маліноўскі** — былы член гандбольнай каманды ЦСКА Менск і зборнай СССР, у надыходзячым сэзоне будзе іграць у камандзе „Іскра" Кельцы — чэмпіёне Польшчы па гандболу.

**Цыганская мастацкая вёска** — гэта назва культурнага мерапрыемства, арганізаванага рэдакцыяй часопіса „Rrom-po-drom", арганізацыяй Romani Union і фондам „Пагранічча" з Сейн. Мэта імпрэзы — прыбліжэнне ўсім зацікаўленым культуры цыганоў і ламанне стэрэатыпаў. Удзельнікі — цыганы з розных краін свету — слухалі лекцый па гісторыі і культуры, дыскутавалі аб праблемах цыганскай грамадскасці, вучыліся народных танцаў. Заняткі ў цыганскай мастацкай вёсцы праводзіліся пад канец жніўня ў Борках над Супраслю, а выкладчыкамі былі спецыялісты з Францыі, Расіі і Венгрыі.

Ад пачатку гэтага года на кантрольна-прапускных пунктах: з Літвой — у **Агародніках** і з Беларуссю — у **Кузніцы-Беластоцкай** гранічнымі службамі было выяўлена і затрымана **100 крадзеных аўтамабіляў**. Найчасцей на сфальшаваных дакументах перапраўляюцца камфартабельныя легкавыя аўтамашыны, украдзеныя ў Нямеччыне і Польшчы. Кантрабандысты асабліва палюбілі КПП у Агародніках.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Пры капіталізме людзі перасталі любіць "баляроны", а рассмакаваліся ў "кашанках".
- Святкаванне ў Чыжах.
- Максім Гарэцкі — да стагоддзя з дня нараджэння класіка.
- Лісты чытачоў, абураных парнаграфіяй і вульгарнасцю ў "Ніве".

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

## ПОМСТА МЖЫСЛАВА МАЖАЙСКАГА

Цэлы тыдзень беларуская прэса напоўена чуткамі аб выбуху, што адбыўся на сталічнай плошчы Незалежнасці.

Упрадавая газета „Рэспубліка" следам за камуністычнай маскоўскай „Правдой" паспяшалася прыпісаць акцыю членам „Беларускага згуртавання вайскоўцаў", у якіх быццам бы і падставы былі — помста за забарону гарадскімі ўладамі мітынгу 8 верасня. Аднак заява, распаўсюджаная Міністэрствам унутраных спраў рэспублікі цалкам абвяргае гэту версію. Адказнасць за выбух узяла на сябе партыя справядлівасці, члены якой гатовыя пачаць ваенныя дзеянні за адраджэнне былога Саюза. Ва ўсялякім выпадку, Мжыслаў Мажайскі, які ў тэлефоннай размове назваўся афіцыйным прадстаўніком гэтай нелегальнай партыі з цэнтрам у Санкт-Пецярбургу, менавіта ў гэтым запэўніваў міліцыянераў, паабяцаўшы вясёленькае жыццё і ў будучым — аж пакуль кіраўніцтва рэспублікі не возьме курс на адраджэнне адзінага СССР.

## СТАРЫ СЯБРУК ЛЕПШ ЗА НОВЫХ ДВУХ?

Прыйшоў канец мірнаму паралельнаму суіснаванню расейскага рубля і беларускага „зайчыка". Расейскі Цэнтрабанк паставіў катэгарычную ўмову — пагадненне з грашова-фінансавай палітыкай Масквы, або развод без рублёвых „аліментаў".

Заікнуўшыся, было, аб пераходзе на ўласную валюту, Нацыянальны банк Беларусі на доўгі час заціх. Мяркуючы па гэтай трывожнай цішыні, ураду самастойныя фінансавыя крокі зусім не даспадобы, і Беларусь, хутчэй за ўсё, застанецца ў рублёвай зоне. Аб чым, дарэчы, заявіў, накіроўваючыся на сустрэчу з расейскім прэзідэнтам Барысам Ельцыным, і старшыня парламента Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

## ГОНАР — НЕ ЦЁТКА

Аб напаткаўшым Беларусь стыхійным бедстве — моцных паводках у Брэсцкай і Гомельскай абласцях даведаліся і ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Агульны матэрыяльны ўрон ацэньваецца ў сто мільёнаў долараў.

Між тым, разам з астатнімі даўжнікамі Беларусь рызыкуе апынуцца без права голасу ў ААН з-за вялікай запазычанасці па ўзносах. Праўда, Міністэрства замежных спраў Беларусі ўжо звярнулася да ААН з просьбай лічыць рэспубліку менш развітай краінай, чым раней, і знізіць адпаведна яе ўзнос у аперацыі.

Малаверагодна, што гэтая нота ўзрадуе прадстаўнікоў ААН, фінансавае становішча якой незалежныя назіральнікі ацэньваюць „на мяжы краху". Тым больш, што былыя рэспублікі Савецкага Саюза — Украіна, Расія і Беларусь — у ліку асноўных даўжнікоў, а іх агульная доля ў бюджэце ААН роўная 11 працэнтам.

## МАЦІ ЎРАГАНАЎ

На Беларусі зноў бяда. Днямі над Шаркаўшчынскім і Міёрскім раёнамі Віцебскай вобласці пранёсся моцны ўраган. Стыхія бушавала крыху ўсяго больш за дзесяць хвілін, але бяды нарабіла шмат. Адзін чалавек загінуў, некалькі атрымалі значныя траўмы.

Апроч таго, гаспадаркам нанесены вялікі матэрыяльны ўрон. Дажджом і градам амаль цалкам знішчаны пасевы збажыны, вецер разбурыў шмат вясковых хат і жывёлагадоўчых памяшканняў, павыварочваў лясы і сады.

## РЫХТУЙ „БУРЖУЙКІ" ЛЕТАМ

Цяжкі энергетычны крызіс, што ахапіў зараз Беларусь, прымусіў многіх гараджан рэспублікі ўжо зараз рыхтавацца да зімы. Так, напрыклад, у адной з турмаў Оршы наладзілі масавую вытворчасць кампактных пячэй — „буржуек". Зняволеныя зрабілі ўжо першую партыю і да халадоў абяцаюць забяспечыць уласнай энергетычна-паліўнай устаноўкай усіх жадаючых. Дарэчы, попыт на „буржуйкі" сярод аршанцаў немалы.

## ЛЮДЗІ ПОЛЬКУ ТАНЦАВАЛІ

З 18 па 22 жніўня праходзіў у Чачэрску першы фестываль беларускай полькі. Выступалі фальклорныя гурты і калектывы, індывідуальныя выканаўцы народных танцаў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# АБАКРАЛІ НАЧАЛЬНІКА... МІЛІЦЫІ

Сабраўшыся ў паездку на пасяджэнне калегіі Міністэрства ўнутраных спраў Украіны, начальнік Управы ўнутраных спраў г. Сімферопаля Мікалай Ганіеў выклікаў аўтамабіль, узяў у рукі „дыпламат", свой адпрасаваны генеральскі мундзір і выйшаў на вуліцу. Тут, пакінуўшы рэчы на тратуары, ён адлучыўся на хвілінку, каб паглядзець, дзе машына, а калі вярнуўся, то выявіў, што мундзір яго бясследна знік. Прапаў і „дыпламат", у якім знаходзіліся службовыя дакументы і даклад, падрыхтаваны да выступлення на калегіі міністэрства.

Па трывозе былі ўзняты работнікі міліцыі раёна, дзе жыве генерал, але ніякіх слядоў злачынцаў яны не выявілі. Па Сімферопалі ходзяць чуткі, што на дапамогу органам унутраных спраў былі запрошаны экстрасенсы, але і яны не змаглі ўказаць нават прыблізна, дзе шукаць прапажу.

*(„Звязда" н-р 133)*

# У МІХАЛОВЕ ПАТРЭБНА КАРЧМА

Нядаўна ў перадачы „Пад знакам Пагоні" пачуў я пра адкрыццё дома культуры на Гайнаўшчыне, здаецца, у Старым Беразове.

Гэта добры ўчынак з боку гмінных улад і жыхароў вёскі. А я вось хачу напісаць, як войт гміны ў Міхалове стараецца пра культуру. У Міхалове, як грыбы пасля дажджу, вырастаюць крамы з алкаголем. Ужо ёсць пяць пунктаў, дзе можна купіць гарэлку. Да 1939 года і за камуны была толькі адна такая крама. А зараз? Ідучы на могілкі, можаш купіць гарэлку ля вуліцы, якая вядзе да месца вечнага адпачынку. Ідучы на працу на фабрыку, бяры дома закуску, бо гарэлку можаш купіць у фабрычным будынку. Там, дзе даўней знаходзіўся пастарунак міліцыі, заблудаўскі ГС адкрыў „Далікатэсы" з гарэлкай. І яшчэ ёсць дзве крамы з гэтай атрутай. Забыўся войт адкрыць хаця б кіёск з півам ці мацнейшымі напіткамі каля касцёла, каб і ксёндз мог купіць імшальнае віно або прапаласкаць горла перад пропаведзю, бо каля царквы такі прылавак ужо ёсць. Прыдалося б таксама, каб і ў павільёне пры вул. Гарадоцкай, побач школы, таксама можна было нечым пахмяліцца.

Расказвала мне бабуля, што за цара пры дарозе з Новай Волі ў Ялоўку нейкі яўрэй меў карчму з чаем і водкай. Цяпер на „Імшары" стаіць пусты кіёск. Чаму б там не адкрыць карчму? Пан войт, падумайце: калі ў фабрыцы можна, то ў цагельні і на „Імшары" — таксама!

І так, чаму ж нам не піць, чаму ж не гудзець, калі ў нашай хаце парадак ідзець!

ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР

P.S. А з другога боку — калі б хто хацеў з'есці ў Міхалове абед, то няма куды зайсці, бо рэстаран даўно ўжо закрылі. А прыдалося б і абед з'есці, і сто грам культурна выпіць. Можа хто калі адкрые нейкую сталовую?

# ЗЛОМАНЫ ВЕНІК

Народную аповесць, як бацька растлумачыў сынам карысць ад згоды, думаю, амаль усе ведаюць. Сыны не ладзіліся між сабою і часта сварыліся. Аднаго вечара бацька сабраў іх усіх дома і даваў па чарзе кожнаму з іх зламаць моцны венік. Колькі сілы прыкладвалі яны, але зламаць звязаны венік ніводзін з іх не змог. Тады бацька развязаў венік і загадаў ламаць паасобныя веткі. Сыны хутка з імі справіліся. І сказаў бацька ім: „Калі будзеце трымацца разам, ніхто вас не зломіць, але калі паасобку будзеце разлічваць на свае сілы і жыць у нязгодзе, дык з вамі і дурань справіцца".

Падобная сітуацыя і ў нас, беларусаў. Падзяліліся мы на дзесяткі груповак і арганізацый, сварымся паміж сабою і яшчэ хочам мець сваіх паслоў і сенатараў. З гэтага абсалютна нічога не атрымаецца! Людзям абрыдла ўсё і трэба моцнай галавы, каб зразумець, за кім пайсці. Немцы ў нас, у Польшчы, намнога за нас разумнейшыя, трымаюцца разам, хаця маюць некалькі арганізацыяў і ўвялі ў Сейм 7 сваіх паслоў. Паўтараю яшчэ раз — нічога нам не выйдзе, былі мы дурнямі і астанемся імі да скону, хаця народ наш добры і шчыры. Але шчырасць і дабрыня не заступяць патрыятызму, якога мы, на жаль, не маем. Нас можа толькі выратаваць з'яднанне ў адну, а найболей у дзве арганізацыі — беларускую і праваслаўна-беларускую. І ўсё. Кандыдаты павінны быць патрыётамі свайго народа і дбаць пра інтарэсы нашай меншасці, незалежна ад рэлігійных ці іншых поглядаў. І толькі тады здабудзем тое, што нам належыцца, бо дзве моцныя і дружныя арганізацыі змогуць увесці аднаго сенатара і некалькіх паслоў у польскі парламент. Але гэта толькі мая фантазія, бо каб здзейсніць такую задуму патрэбны вялікія ўздым і патрыятызм беларусаў, якога, на жаль, няма. Бо калі б мы былі патрыётамі, дык „Ніва" была б жаданым госцем у кожнай хаце. А ў сапраўднасці як яно ёсць? Адны слёзы! Мо хто мне закіне, што я таксама спрачаюся ў „Ніве" з некаторымі людзьмі. Мой адказ наступны: каб мы ўсе трымаліся разам і не кідалі сабе калод пад ногі, то я ў першую чаргу аддаў бы свой голас на тых, з кім спрачаюся. Калі б яны кандыдавалі, вядома.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

# Я ТАНЦУЮ „ПАД ГРАБАМІ"

Карчма „Пад грабамі" з'яўляецца своеасаблівай з'явай у культурным жыцці Гайнаўкі. Вельмі добра арганізавана і прыдумана гаспадараом — Гайнаўскім домам культуры, прыцягвае спевамі і музыкай маладых і старэйшых аматараў танцаў і забавы. Няхай хто мне пакажа такое месца, дзе заўсёды, нягледзячы на пару дня, я застану чыстыя сталы і лаўкі, і дзе не валяюцца акуркі і разбітае шкло.

Я і не думала, што людзі ўмеюць так забаўляцца. Дасканала танцуюць і цешацца кожнай хвілінай праведзенай у гэтым чароўным месцы.

Карчма дзейнічае з ліпеня мінулага года. З пятніцы па нядзелю, у гадзінах 20-24, выступаюць тут музычныя калектывы з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і ваколіц. Маім абсалютным фаварытам была „Грамада" з Віцебска. На жаль, калектыў выступіў толькі раз.

Прыемны барык і спраўная абслуга забяспечваюць халоднымі і гарачымі напіткамі, ласункамі, каўбаскамі. Калі ўжо змяркаецца, арганізатары запальваюць касцёр у адпаведна для гэтага падрыхтаваным месцы. Як дагэтуль, а хаджу туды ўжо даволі доўга, я не прыкмеціла выпадкаў хуліганства і дрэнных паводзін. Наколькі мне вядома, паліцэйскія патрулі ўважліва назіраюць гэту тэрыторыю і нічога дрэннага не можа тут здарыцца.

Не хапае мне толькі аднаго — спантаннасці. Аркестры даюць з сябе ўсё — іграюць, спяваюць, намагаюцца трапіць у музычныя густы ўсіх. Але я не чула апладысментаў, хаця б крыху шалёнай радасці, якімі можна б праявіць прызнанне, апрабацыю. Калектывы трапляюць у... цішыню, хаця танцоўшчыкі выразна задаволены.

Рэкамендую гэтае месца таму, што тут сапраўды можна адпачыць. Атмасфера тут гарачая, хаця вечары ўжо штораз халаднейшыя. Гаспадарам перадаю словы сардэчнай падзякі.

ТЭРЭСА ВАЛКАВЫЦКАЯ

# ПАЖАРНІКІ З АЎГУСТОВА ПАЕДУЦЬ У КРАКАЎ

У вёсцы Аўгустова, што каля Бельска, добраахвотная пажарная каманда існуе з 1930 года. Цяпер каманда дасягнула высокі ўзровень супрацьпажарнай падрыхтоўкі. Апошнія два гады прымала яна ўдзел у пажарных спаборніцтвах на Украіне. Сёлета на занальных спартыўна-пажарных спаборніцтвах у Нідзіцы (Ольштынскае ваяводства) аўгустоўская каманда заваявала права ўдзельнічаць у краёвых спаборніцтвах, якія адбудуцца 2 кастрычніка г. г. ў Кракаве. Майстэрства аўгустоўскіх пажарнікаў будзе праверана яшчэ на гмінных спаборніцтвах з удзелам украінскіх пажарнікаў у Кнаразах 5 верасня г. г.

Пажарнікі з Аўгустова апынуліся ў ліку 24 найлепшых каманд у краіне. Прыдалося б ім лепшае вогнетушыцельнае абсталяванне. Добраахвотнікі маюць яшчэ адзін клопат. Паводле выращэнняў Ваяводскай камендатуры Дзяржаўнай супрацьпажарнай стражы, каманда, якая прымае ўдзел у краёвых спаборніцтвах, сама павінна аплаціць страхоўку, кошты праезду і харчавання. У такой сітуацыі пажарнікі з Аўгустова шукаюць спонсараў, якія дапамогуць хаця б часткова сфінансаваць іх паездку ў Кракаў. Грошы можна пералічваць на рахунак: Związek OSP, Zarząd Gminny w Bielsku Podlaskim, Nr 5614-2408-132 w Powszechnej Kasie Oszczędności Bank Państwowy, Oddział w Bielsku Podlaskim.

МІКАЛАЙ ЯКУБЮК

# ДВА ВАЎРАНЮКІ

Праца журналіста — як усе ведаюць — гэта, перш за ўсё, сустрэчы з людзьмі. З тае прычыны, што апошнім часам ледзь не ў кожнай такой сустрэчы мае субяседнікі паварочваюць гутарку на выбарчую кампанію, стараючыся раскрэсліць маю палітычную платформу, заяўляю: кандыдат у Сейм ад Выбарчага камітэта Управы Беларускага саюза — 48-гадовы інжынер Мікалай Ваўранюк, гэта не я. Гэта нават ніякая мая сям'я ці радня.

МІКОЛА ВАЎРАНЮК, 27 гадоў, журналіст „Нівы"

# ТАЯМНІЦА БЕЛАВЕЖЫ

Частка III

## Пошукі слядоў

Свае пошукі слядоў вёскі-атлантыды мы пачалі са сцвярджэння, што ўрочышча, у якім знаходзілася Крыштапова, па сённяшні дзень называецца...„Крыштапова". Яно пастаянна забудоўваецца жылымі дамамі.

У легендзе пра вёску ўпамінаецца, што на памятку яе існавання быў пастаўлены вялікі драўляны крыж. І такі крыж стаіць па сённяшні дзень на Броўскай дарозе, што перасякае вёску. Вядома, не той трохсотгадовай даўнасці, але навейшы. Людзі, мабыць, і забылі, чаму ён там, у шчырым полі, стаіць. Калі крыж прыгніе і пачынае хіліцца, ставяць на яго месцы новы.

Пры той жа дарозе, непадалёку ад крыжа, некалькі дзесяткаў гадоў назад былі выкапаны людскія косці. Калі гэта быў сапраўды могільнік, дык напэўна крыштапоўцаў.

Я ўжо ўспомніў, што ворнай зямлі ў Крыштаповым меншае з года ў год. Але раней, калі яшчэ тут амаль усё было ворным полем, сяляне час ад часу выворвалі рэшткі глінянага посуду, каменныя элементы жорнаў. Хтосьці некалі выараў нават ярмо. Гэта доказ, што тут некалі нехта жыў, працаваў.

Мы яшчэ даведаліся, што частку поля, якое ад поўначы мяжуе з пасёлкам Вайцяхоўка, старэйшыя людзі называюць „Стараполіцай" або „Старым полем". Значыць, яно існуе здаўна, мабыць, з'явілася яно яшчэ да ўзнікнення Белавежскай паляны ці яе пашырэння на гэтае месца.

Мабыць, пра тое самае „stare pole Białowieskie" ўпамінаецца ў дакуменце „Pomiar w Leśnictwach Naszych W. X. Lit. na nowiny strażnikowskie, strzeleckie i osockie..." ад 8 снежня 1744 г.

На поўнач ад „Старога поля" знаходзіцца крынічка. Ці гэта якраз тое месца, адкуль крыштапоўцы бралі ваду? Сёння цяжка ўжо гэта ўстанавіць. Цікава, што на ўсход ад крынічкі, ля Броўскай дарогі (за помнікам загінуўшым падчас апошняй вайны), на левым баку, яшчэ да І сусветнай вайны, людзі знаходзілі сляды нейкага невялікага пасялення. Ці магло быць гэта прадаўжэнне Крыштапова?

У паданні аб Крыштапове ўпамінаецца таксама невялікая царкоўка. Быццам звон з яе, потым як была спалена вёска, жыхары мелі перанесці (як адзіную рэч) у царкоўку, якую збудавалі на Стачку, а навокал яе вызначылі могільнік. Могільнік праіснаваў да нашых дзён, хаця слядоў па першых магілах ужо няма. На месцы старой царкоўкі ў 1873 г. паставілі новую. Адзін са званоў, якія у ёй захоўваюцца, налічвае звыш трыста гадоў. Ці гэта той самы звон з Крыштапова?

Аднак найбольш нам рупіла адшукаць магілу (ці магілы) памёршых ад чумы жыхароў Крыштапова. Праўду кажучы, мы ў гэтым моцна сумняваліся, але надзею ўсё-такі не трацілі. І, аказалася, што не дарма! Адну магілу паказаў нам жыхар Крыжоў, Уладзімір Дацкевіч. Ён даведаўся пра яе ад свайго дзеда Аляксея, які апавядаў, што нябожчыкаў вазілі у рагожах з лыка, па некалькі чалавек у адной. Рагожу захілялі і гэтак памёршых апускалі ў магілу. Было гэта даўно, але калі, дзед не ведаў.

Згаданая магіла знаходзіцца непадалёку лясной дарогі, якая выходзіць ад шашы Гайнаўка — Белавежа і накіроўваецца ў напрамку паказнога запаведніка зуброў. Па гэтай дарозе бяжыць турысцкі шлях, пазначаны на дрэвах жоўтым колерам. Сама магіла ледзь прыкметная. Сяргей памераў яе крокамі — выйшла 5 х 25. На ёй расце некалькі дрэў. Старая елка, якая тут расла, зараз зрэзана, па ёй астаўся толькі камель.

У іншага старога жыхара, на гэты раз з Заставы, мы даведаліся, што была яшчэ другая магіла, але яе знішчылі ў 1903 г., будуючы шашу з Гайнаўкі, праз Белавежу, у Пружану.

Пра нашу знаходку Георгі Валкавыцкі паведаміў войту гміны, Анне Байко, якая абяцала агарадзіць магілу і паставіць на ёй крыж. Адначасова спадарыня войт выказала думку, што спярша трэба было б праверыць, ці сапраўды гэта магіла, а не напрыклад... кампоставая куча.

Мы крыху пераляканіся, бо пры раскопванні магілы можна „выпусціць" заразкі чумы, якія магчыма захаваліся ў нейкай законсерваванай форме. Ці можам мы ўзяць адказнасць за выбух эпідэміі? Думаем, што калі ўжо сапраўды патрэбна будзе праверка, то нельга яе рабіць без згоды і нагляду эпідэміялагічнай службы.

Ад жыхаркі Трапінкі, Надзеі Лукшы, мы атрымалі яшчэ адну цікавую вестку. Яна паінфармавала, што першым памёршым ад чумы жыхарам быў нейкі Трусь. Яго пахавалі ў лесе, на ўсход ад вёскі. Урочышча гэтае і цяпер называюць „Трусевы могліцы".

Усе гэтыя інфармацыі і сляды канчаткова пераканалі нас у тым, што вёска Крыштапова сапраўды існавала. Загадкай надалей астаецца, чаму яе не ўпамінае ніводная пісьмовая крыніца. Магчыма, што Крыштаповам называлі сваю вёску самі жыхары, а яна афіцыйна лічылася Белавежай. Так, як напрыклад, было гэта з Крапіўнікам, які быў спалены ў апошнюю вайну. Пасёлак гэты афіцыйна ўваходзіў у склад Заставы, дык жыхары паўсюдна карысталіся ўласнай назвай.

Паданне сцвярджае, што Крыштапова было спалена тры стагоддзі таму, значыць недзе каля 1700 г. А калі вёску маглі заснаваць? Думаю, што не раней, чым у першай палове XVII стагоддзя. Яе жыхарамі маглі быць асочнікі, а па частцы людзі, якія абраблялі белавежскі фальварак.

Ці ўдасца нам адшукаць іншыя сляды гэтай белавежскай Атлантыды? Ці канчаткова выявім таямніцу Белавежы?

ПЁТР БАЙКО

# АБ ЧЫМ ВУЧАЦЬ ПАРЛАМЕНЦКІЯ ВЫБАРЫ 1991

*Працяг са стар. 1*

чы галасы БВК, ВКП і палову галасоў СЛД, атрымаем 12943 галасы. Не думаю, каб на іншыя партыі галасавала заўважальная колькасць беларусаў. Так ці інакш, галасавала ў Беластоку каля 13 тысяч беларусаў. Пры выбарчай прысутнасці 50 % атрымліваем 26 тысяч беларускіх выбаршчыкаў.

Такім чынам ва ўсёй Беласточчыне атрымліваем каля 110 тысяч патэнцыяльных беларускіх выбаршчыкаў (г.зн. дарослых праваслаўных), з чаго прагаласавала каля 45,5 тысячы. Улічыўшы непаўналетніх, якіх з прычыны ўстарэласці беларускага грамадства нямнога, можна сцвердзіць, што беларусаў (праваслаўных) не болей за 150 тысяч.

Паказвае гэта, што беларусаў (хаця патэнцыяльных) на Беласточчыне намнога менш, чымся прызвычаіліся мы думаць. Гэта вынік выездаў з Беласточчыны беларускай моладзі, а ў самой Беласточчыне (перш за ўсё ў Беластоку) — асіміляцыі праз мешаныя сужонствы. У Беластоку палова праваслаўных уваходзіць у сужонствы з католікамі. Мешанае сужонства, як прынцып, абазначае пераход у каталіцтва і поўную асіміляцыю, а прынамсі поўнае адрачэнне ад свае беларускасці. Беларусы становяцца невялікай меншасцю не толькі ў маштабе краіны, але і Беласточчыны, ды перш за ўсё ў самім Беластоку.

Свядомасць гэтай дэмаграфічнай катастрофы павінна ахапіць усё нашае грамадства. Нас на Беласточчыне не толькі не 600 тысяч (падаюцца і такія шалёныя лічбы), але нават не 300 і не 200 тысяч людзей. Нас максімальна 150 тысяч і адпаведна гэтаму ліку павінна ствараццa стратэгія нацыянальнага і рэлігійнага выжывання.

Адносна выбараў гэта абазначае, што пры такой выбарчай прысутнасці як сярод палякаў, беларусы могуць здабыць два месцы ў Сейме і пакуль існуе выбарчы закон з льготамі для нацыянальных меншасцяў, трэба іх браць, бо вынікі выбараў сведчаць пра згуртаванасць дадзенай грамадскасці, выклікаючы адпаведныя адносіны з боку іншых. Тым часам у апошніх выбарах у Сейм увайшоў толькі кандыдат ад ВКП Яўген Чыквін. Паглядзім, як гэта атрымалася.

У Беластоцкім ваяводстве ВКП назбіраў 13224 галасы, БВК — 4281, СЛД — 41286. Гэтым самым БВК не хапіла некалькі тысяч галасоў. Тым часам на спісак СЛД пайшлі 28 тысяч беларускіх галасоў. (Як мы палічылі, галасавала каля 45,5 тысяч беларусаў, з чаго за кандыдатаў ВКП і БВК разам 17,5 тысяч), рэшта за СЛД). Калі б прынамсі чвэрць гэтых беларусаў, што аддалі галасы за СЛД, прагаласавала за БВК, у Сейм увайшоў бы адзін з беларускіх кандыдатаў, а СЛД і так мела б два месцы, бо на яго спісак галасавала яшчэ 16 тысяч палякаў на Сувальшчыне.

Паколькі галасаванне за СЛД амаль поўнасцю азначала галасаванне за асобу В. Цімашэвіча, атрымаўся парадаксальны вынік. Калі б за СЛД галасавалі толькі палякі з Беласточчыны (13 тысяч), Цімашэвіч і так быў бы паслом! Такім чынам беларусы, што аддалі голас за Цімашэвіча, практычна выбралі ў Сейм Я. Шыманскага, які сам дастаў тысячу галасоў, а пасля выбараў выйшаў з СЛД і перакінуўся ва Унію працы.

У цяперашніх выбарах даволі ясная сітуацыя ў выбарах у Сенат. Кандыдуе толькі адзін беларус, Яўген Чыквін з Выбарчага камітэта праваслаўных. Максімальна можа ён атрымаць каля 45 тысяч галасоў (пры гэткай жа прысутнасці, як у папярэдніх выбарах). Гэта малавата, але шанцы Я. Чыквіна выдатна павольшвае магчымае разбіццё галасоў за каталіцкіх кандыдатаў, якіх сёлета намножылася, падчас як Чыквін ніякага канкурэнта ў сваім асяроддзі не мае.

Вялікай невядомай з'яўляюцца выбары ў Сейм. Дзеля гэтых выбараў аб'ядналіся ВКП і БВК, якія ў папярэдніх выбарах набралі 17,5 тысяч галасоў. Калі б паўтарыўся гэты вынік, яго павінна спакойна хапіць Выбарчаму камітэту Беларускага саюза на адно месца ў Сейме (пра два ў дадзеных абставінах нават і думаць не прыходзіцца!).

Усё ж такі, сёлетнія выбары адбываюцца ў змененай сацыяльна-гаспадарчай сітуацыі. Разам са збядненнем і зняверанием грамадства расце ўплыў сацыял-дэмакраты (СЛД) і так ужо на Беласточчыне надта ж вялікі. Пагражае гэта перш за ўсё Выбарчаму камітэту Беларускага саюза.

У сувязі з гэтым прыпомню толькі адну выснову, якую можна зрабіць з выбарчай статыстыкі. Нават самы вялікі прыхільнік В. Цімашэвіча сярод беларусаў можа дазволіць сабе на крышку нацыянальна-рэлігійнага камфорту і прагаласаваць за кандыдата са спіска Беларускага саюза. Цімашэвіч, якога аўтарытэт расце апошнім часам таксама і ў польскім асяроддзі, і так будзе выбраны галасамі беластоцкіх палякаў (пра г. зв. краёвы спісак, на якім ён на першым месцы ўжо не ўспамінаючы). Выбарчая арыфметыка наяўна паказвае, што аддаючы голас за „нашага Валодзьку", беларускія выбаршчыкі прагаласуюць на практыцы за невядомую сабе асобу, якая з другім мандатам ад СЛД па спіне Цімашэвіча дабярэцца ў парламент.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

*) У змешчаных побач табліцах прыводзяцца вынікі галасавання ў гмінах, у якіх БВК і ВКП дасягнулі прыкметную колькасць галасоў. Гміны ўпарадкаваныя паводле працэнту галасоў аддадзеных на кандыдатаў БВК у Сейм (табліца 1) і Сенат (табліца 2).

ТАБЛІЦА 1

| Lp. | Gmina | Głosów oddanych | Frekw. % | Białoruski Komitet Wyborczy | | Komitet Wyborczy Prawosławnych | | Sojusz Lewicy Demokratycznej | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Głosów | % | Głosów | % | Głosów | % |
| 1 | Narew | 1651 | 39.4 | 260 | 16.4 | 281 | 17.8 | 659 | 41.7 |
| 2 | Dubicze Cerk. | 910 | 41.0 | 109 | 12.4 | 246 | 28.0 | 451 | 51.3 |
| 3 | m. Bielsk | 9350 | 51.9 | 981 | 11.0 | 770 | 8.6 | 3186 | 35.6 |
| 4 | Czyże | 1227 | 42.6 | 102 | 3.7 | 336 | 28.6 | 647 | 55.2 |
| 5 | Gródek | 2109 | 39.6 | 173 | 8.6 | 225 | 11.1 | 1123 | 55.5 |
| 6 | gm. Bielsk | 2963 | 37.7 | 201 | 7.0 | 480 | 16.7 | 1336 | 46.5 |
| 7 | Narewka | 1453 | 37.2 | 94 | 6.8 | 328 | 23.9 | 682 | 49.7 |
| 8 | Orla | 1970 | 49.1 | 131 | 6.8 | 259 | 13.5 | 1451 | 75.4 |
| 9 | gm. Hajnówka | 1849 | 46.8 | 108 | 6.0 | 263 | 14.7 | 1260 | 70.6 |
| 10 | m. Hajnówka | 7826 | 46.1 | 423 | 5.8 | 964 | 13.1 | 2897 | 39.4 |
| 11 | Boćki | 2416 | 52.6 | 76 | 3.3 | 210 | 9.2 | 457 | 20.0 |
| 12 | Kleszczele | 1413 | 48.0 | 41 | 3.1 | 387 | 29.3 | 672 | 50.9 |
| 13 | Zabłudów | 3103 | 37.4 | 88 | 3.0 | 263 | 9.1 | 307 | 10.6 |
| 14 | Nurzec Stacja | 1545 | 34.4 | 42 | 2.9 | 299 | 20.4 | 584 | 39.9 |
| 15 | Białowieża | 1046 | 44.9 | 26 | 2.6 | 125 | 12.6 | 441 | 44.3 |
| 16 | Czeremcha | 1375 | 42.6 | 31 | 2.4 | 189 | 14.8 | 750 | 58.9 |
| 17 | Michałowo | 2397 | 34.8 | 36 | 1.6 | 374 | 16.6 | 695 | 30.9 |
| 18 | Krynki | 1659 | 54.2 | 26 | 1.6 | 214 | 13.6 | 185 | 11.7 |
| 19 | Supraśl | 3229 | 44.0 | 49 | 1.6 | 321 | 10.6 | 381 | 12.6 |
| 20 | Szudziałowo | 1135 | 32.8 | 12 | 1.2 | 151 | 14.9 | 134 | 13.2 |
| 21 | Juchnowiec Dol. | 3260 | 41.9 | 37 | 1.2 | 64 | 2.0 | 325 | 10.4 |
| 22 | Nowy Dwór | 897 | 33.1 | 9 | 1.1 | 63 | 7.5 | 139 | 16.6 |
| 23 | Białystok | 94838 | 48.8 | 1016 | 1.1 | 3955 | 4.3 | 15944 | 17.4 |
| 24 | Grodzisk | 2255 | 54.5 | 19 | 0.9 | 285 | 13.2 | 230 | 10.7 |
| 25 | Mielnik | 1176 | 45.0 | 9 | 0.8 | 249 | 22.3 | 335 | 30.0 |
| 26 | Siemiatycze | 5796 | 38.2 | 45 | 0.8 | 759 | 13.9 | 1054 | 19.3 |
| 27 | Wasilków | 3022 | 41.9 | 22 | 0.8 | 133 | 4.7 | 172 | 6.1 |
| 28 | Milejczyce | 1101 | 47.8 | 5 | 0.5 | 152 | 14.6 | 529 | 50.7 |

ТАБЛІЦА 2

| Lp. | Gmina | Jan Czykwin (BKW) | | Mikołaj Wawreniuk (KWP) | | Sergiusz Plewa (SLD) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Głosów | % | Głosów | % | Głosów | % |
| 1 | Czyże | 918 | 77 | 587 | 49 | 512 | 43 |
| 2 | gm. Hajnówka | 1213 | 67 | 910 | 50 | 751 | 41 |
| 3 | Narewka | 839 | 60 | 563 | 40 | 403 | 29 |
| 4 | Narew | 904 | 56 | 498 | 31 | 698 | 43 |
| 5 | Gródek | 1091 | 53 | 862 | 42 | 652 | 32 |
| 6 | Kleszczele | 711 | 52 | 642 | 47 | 335 | 25 |
| 7 | Czeremcha | 686 | 52 | 462 | 35 | 473 | 36 |
| 8 | gm. Bielsk | 1448 | 50 | 120[illegible] | 41 | 729 | 25 |
| 9 | Milejczyce | 509 | 48 | 394 | 37 | 223 | 21 |
| 10 | Dubicze Cerk. | 392 | 45 | 512 | 58 | 394 | 45 |
| 11 | Nurzec Stacja | 639 | 43 | 645 | 43 | 266 | 18 |
| 12 | Białowieża | 424 | 42 | 386 | 38 | 203 | 20 |
| 13 | Hajnówka | 2919 | 39 | 2189 | 29 | 1855 | 25 |
| 14 | Orla | 723 | 37 | 915 | 47 | 1213 | 62 |
| 15 | m. Bielsk | 3192 | 35 | 2316 | 25 | 2078 | 23 |
| 16 | Mielnik | 397 | 35 | 443 | 39 | 112 | 10 |
| 17 | Michałowo | 716 | 31 | 745 | 32 | 392 | 17 |
| 18 | Boćki | 560 | 24 | 492 | 21 | 218 | 9 |
| 19 | Szudziałowo | 228 | 22 | 188 | 18 | 72 | 7 |
| 20 | Siemiatycze | 1111 | 20 | 112[illegible] | 20 | 499 | 9 |
| 21 | Krynki | 293 | 18 | 279 | 17 | 124 | 8 |
| 22 | Grodzisk | 370 | 17 | 403 | 18 | 129 | 6 |
| 23 | Zabłudów | 472 | 16 | 445 | 15 | 227 | 8 |
| 24 | Nowy Dwór | 117 | 14 | 96 | 12 | 80 | 10 |
| 25 | Supraśl | 434 | 14 | 499 | 16 | 296 | 10 |
| 26 | Białystok | 6942 | 7.5 | 754[illegible] | 8 | 15688 | 17 |
| 27 | Juchnowiec Dol. | 209 | 7 | 204 | 6 | 232 | 7 |
| 28 | Wasilków | 177 | 6 | 182 | 6 | 160 | 6 |

# САЦЫЯЛІСТЫЧНЫ КАПІТАЛІЗМ

Нядаўна ў сродках масавай інфармацыі прагучала рэха спрэчкі паміж левымі сацыял-дэмакратамі (СЛД) і лібераламі (КЛД) за тое, хто сапраўдны аўтар іх выбарчай праграмы. Аказалася, што абедзьве партыі маюць аднолькавы пункт гледжання на гаспадарку, метады выхаду з крызісу, вырашэнне грамадскіх праблемаў. Не было б нічога дзіўнага ў тым, што партыі маюць падобныя праграмы на такую ці іншую справу, але ў гэтым выпадку атрымаўся надта арыгінальны палітычны кур'ёз. На ўсім „згнілым захадзе" ад дзесяцігоддзяў эканамічна-грамадскае жыццё плыве паміж двумя крайнасцямі — сацыял-дэмакратычнай і ліберальнай, менавіта. Першая плынь хоча нацыяналізаваць у значнай ступені маёмасць і аддаць яе пад кантроль дзяржаўных ураднікаў, другая — наадварот — імкнецца выняць гаспадарку з-пад кантролю дзяржавы. Толькі Мусаліні і Гітлеру ўдалося на кароткі час моцна прыблізіць да сябе гэтыя дзве крайнасці, зрэшты, са знакамітым вынікам для гаспадаркі. Але такі варыянт магчымы толькі ў таталітарнай палітычнай сістэме. І менавіта таму аднолькавую гаспадарчую праграму сацыялістаў і лібералаў у Польшчы лічу найбольшым кур'ёзам сёлетняга палітычнага сезона. Трэба тут падкрэсліць, што польскія сацыялісты рашуча выступаюць за прыватызацыю.

Другі кур'ёз сучаснай „палітычнай сцэны" ў Польшчы — гэта эканамічныя лозунгі (лозунгі, бо праграмаў пакуль што няма) партыяў, якія называюць сябе правымі. Знакамітая большасць з іх выступае супраць прыватызацыі, а галоўнай прыкметай, якая дазваляе аднесці іх да „правых" — гэта суперпатрыятызм і перакананне, што банкамі і фінансамі кіруе нейкая яўрэйска-камуністычная мафія.

Сапраўды, цяжка разабрацца, якая мае быць будучыня дзяржавы і народа, калі ўладу пяройме партыя X, ЗХН, ПЦ, РдР ці Самаахова Лепэра. Лозунгі, што зладзеяў у турму пасадзяць, гэта яшчэ не праграма, а заклік правесці „дэкамунізацыю" гучыць далей забаўна, калі кідаюць яго былыя камуністы. Праўдападобна, калі хлопцы Квасьнеўскага і Цімашэвіча выйграюць выбары, гэтыя самыя дзядзькі заклікаць будуць вяртаць „дыктатуру пралетарыята", хаця лідэры сацыялістаў больш думаюць пра прыватызацыю.

Праўду кажучы, спачуваю палякам, бо ніхто з іх, ідучы галасаваць, не будзе ўпэўнены, за што і за каго аддаў свой голас. Мы прынамсі ў кожных выбарах маем г. зв. „нашых кандыдатаў". Таксама фальклор, але ўсё-такі — „наш".

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ЦІ ІСУС ХРЫСТОС МЕЎ РОДНЫХ БРАТОЎ ПА МАЦІ?

У 29 н-ры „Нівы" ў артыкуле „Яшчэ раз аб Апостальскім Саборы" аўтар С. Н. выступае супраць маіх меркаванняў, напісаных у „Ніве" н-р 25, што Ісус меў чатырох родных братоў. На жаль, гэта не толькі мае погляды, а многіх вучоных — даследчыкаў Евангелля, а нават многіх царкоўных пісьменнікаў першых стагоддзяў і тэолагаў. Напрыклад, царкоўны пісьменнік Тартуліян лічыў, што матка Ісуса Марыя пасля нараджэння Хрыста вяла звычайнае сямейнае жыццё з мужам Язэпам, і мела з ім дзяцей. Таксама Арыгін пісаў, што Ісус меў родных братоў па матцы. Іаан Златавуст і св. Аўгусцін не верылі ў дзявоцтва Марыі пасля нараджэння Ісуса. Тры сінаптычныя Евангеллі былі напісаны ў 70—80 г.г., а Евангелле ад Іаана — у 95 г. Тады яшчэ не ведалі марыйнага культу і Евангелісты лічылі, што беззаганнае зачацце было здарэннем аднаразовым, што яно датычыла толькі Ісуса, і што пасля гэтага матка Ісуса і Язэп, як шлюбная пара, мелі сваіх дзяцей. Яны не думалі, што мець сваіх дзяцей гэта грэх ці сорам для Багародзіцы, і лічылі Божую Маці Марыю звычайнай яўрэйскай жанчынай, падпарадкаванай мужу і занятай домам і дзецьмі. У Евангеллях Багародзіца рэдка ўспаміналася: напрыклад, у Евангеллі ад Марка толькі адзін раз, у Евангеллях ад Мацвея і Лукі толькі чатыры разы, а ў Евангеллі ад Іаана толькі тры разы. Апостал Павел у сваіх пасланнях аб Божай Маці зусім не ўспамінае, як быццам бы аб ёй нічога не чуў. Сярод хрысціян у першым стагоддзі пасля нараджэння Хрыста не ўспаміналася аб культе Марыі. Ён паявіўся пазней, пад уплывам язычаскага культу Вялікай Мацеры Севіллі і грэцкай багіні-дзевы Артэміды. Пад уплывам культу Севіллі мантаністы пачалі прапаведаваць культ Дзевы Марыі аналагічна, як Севіллі, з дзіцём на руках. Але Мантана ў II стагоддзі выгналі з Рыма і яго прапаведзі перасталі цікавіць хрысціян. Але, мабыць, пад яго ўплывам у II ст. паявіўся ананімны апокрыф „Протаевангелле Якуба", дзе пішацца, што быццам бы браты Ісуса, гэта не яго родныя браты, а сыны Язэпа з яго першай жонкай Саламеяй, якая памерла да нараджэння Ісуса. Гэта была чыстая фантазія, бо нідзе ў сінаптычных Евангеллях не ўспаміналася, што Язэп быў удаўцом. Калі б так было, то не называлі б іх братамі Ісуса, бо яны не мелі роднасці, ні па бацьку, ні па матцы. У „Протаевангеллі Якуба" пішацца, што бацькамі Багародзіцы былі Іаахім і Анна, што яны доўга не мелі дзяцей, а Марыя нарадзілася пасля з'яўлення анёла, які аб'явіў, што народзіцца Божая Маці. Калі ж яна нарадзілася, то невядома чаму яна з 3 да 12 года жыла ў іерусалімскім храме. Карміў яе там анёл, а калі прыйшоў час выдаць яе замуж, то святочнікі знайшлі ёй апекуна сярод удаўцоў, каб „не апаганіла храма Бога". Пасля прадвяшчэння анёлам аб нараджэнні Ісуса, Марыя зацяжарыла і тады паставілі яе і Язэпа перад трыбуналам першасвяшчэннікаў, якія яе апраўдаў пасля нейкай „пробы вады". Гэтае протаевангелле не вытрымала крытыкі і аб ім каталіцкія тэолагі амаль не ўспамінаюць. І менавіта таму пасля ўзнікла іншая тэорыя, што быццам бы браты Ісуса былі яго дваюраднымі братамі па цётцы, г. зн. што яны з'яўляюцца сынамі сястры Маці Ісуса Марыі Кляопавай, аб якой успамінае Евангеліст Іаан (19, 25). Выдумаў гэта касцельны пісьменнік Херанім у IV стагоддзі ў дыятрыбе „Супраць Хельвідыя". Ён мяркуе, што Якуб, Панскі брат (як піша аб ім апостал Павел у пісьме да Галатаў) — гэта сын Марыі, жонкі Алфея (па-грэцку Кляопава). Гэта супярэчыць Евангеллю, бо ў у „Дзеях апосталаў" (1, 13-14) названы два Якубы, Якуб і Якуб Алфееў, а таксама Юда брат Якуба. Пішацца, што яны знаходзіліся разам з „Марыяю, Маці Ісуса і з братамі Яго" (Ісуса). Евангелле піша аб трох Якубах. Два апосталы называліся: Якуб сын Алфея і Якуб сын Зеведзія і брат Іаана. Аб першым мала што ведаем, другі адыгрываў нейкую ролю сярод хрысціян Іерусаліма і як пакутнік загінуў па загаду Ірада Агрыпы ў 44 г. Трэці Якуб, брат Панскі, якога называлі Якубам Справядлівым, пачаў кіраваць Іерусалімскай царквой па смерці Ісуса і ён загінуў у 62 г. па загаду першасвяшчэнніка Анаша II. Апостал Павел не назваў бы дваюраднага брата Ісуса братам Панскім у пісьме да Галатаў. Як я ўжо пісаў, у грэцкай мове ёсць аддзельнае слова, якое азначае дваюраднага брата. У Евангеллі ад Мацвея і Марка (Мацв. (13, 54-56), Мк (6,3) браты Ісуса Якуб, Язэп, Сымон і Юда ўспамінаюцца толькі з Марыяй Маткай Ісуса, а не з Марыяй Кляопавай. Таксама ў Евангеллі ад Лукі (Лк 8, 19-20) напісана: „Матка Твая (Ісуса) і браты Твае стаяць перад домам і жадаюць цябе відзець". Аб ніякай Марыі Кляопавай нідзе не ўспамінаецца. У Евангеллі ад Мацвея (1, 25) напісана: „І не знаў Яе (Язэп), аж нарэшце Яна радзіла Сына Свайго першынца і ён даў Яму імя Ісус". Падаваць, што кожнае немаўля мужчынскага полу называлі першынцам гэта няпраўда. У Выхадзе (13, 2) пішацца: „І сказаў Пан Майсею гаворачы: ахвяруйце мне кожнага першынца". Гэта азначала, што трэба было ахвяраваць кожнага першага чалавека і жывёлу, якія нарадзяцца ў сыноў Ізраіля, а другога і трэцяга не трэба. І паводле Мацвея, а таксама Лукі (2, 7) Ісус быў першым сынам Марыі. Аб тым, што людзі лічылі Ісуса сынам Язэпа чытаем у Евангеллі ад Лукі (4, 22): „Яны гаварылі аб ім: „Ці гэта ж не Язэпаў сын".

Можам упэўніцца, што ў Евангеллі няма доказаў, што браты Ісуса, гэта яго дваюрадныя браты. Версія, якую ўзяў аўтар артыкула аб братах Ісуса, паходзіць адначасова і з „Протаевангелля Якуба" і з дыятрыба „Супраць Хельвідыя", не падаў ён толькі, якіх братоў Ісуса ён лічыць сынамі Саламеі, а якіх сынамі Марыі Кляопавай.

У 431 г. прайшоў у Эфесе (цяпер на тэрыторыі Турцыі) III Сабор, дзе ішла барацьба папы Александрыі Кірылы супраць канстанцінопальскага патрыярха Нестара. Эфес быў месцам культу багіні Артэміды — цнатлівай багіні, сястры Апалона. Пад націскам патомкаў вернікаў у багіню і папы Кірылы асудзілі патрыярха Нестара і яго прыхільнікаў з Антыёхіі, якія спазніліся і якіх не ўпусцілі на Сабор. Нестар і яго прыхільнікі прапаведавалі двайную натуру Хрыста: чалавечую і боскую. Нестар гаварыў, што Марыя не можа быць названа Багародзіцай, бо была толькі чалавечай маткай, чалавечага Ісуса. Багародзіцу ён называў толькі Маткаю Хрыста. Нестар прайграў і імператар Візантыі выгнаў яго з Канстанцінопаля. Марыйны культ перамог у Эфесе і ён хутка перайшоў у Італію, дзе папа Сікст III (432—440) пабудаваў сабор Санта-Марыя Маджорэ, на месцы храма багіні Юноны, у якую яшчэ верыла многа рымлянак. Аднак спрэчкі на тэму беззаганнага зачацця цягнуліся яшчэ доўга ў каталіцкім касцёле і толькі ў 1854 г. папа рымскі Пій IX пракламаваў новую догму. Аднак Праваслаўная Царква, як і іншыя Усходнія Цэрквы, яе не зацвердзілі.

Я праваслаўны, але гэта не значыць, што я не маю права на свой светапогляд на тэму многіх фактаў, якія прадстаўлены ў Евангеллі. Я не люблю, калі настаўнікі Царквы пракламуюць нейкія выдуманыя догмы нязгодныя з Евангеллем, а пасля стараюцца нагінаць факты да сваіх догм. Для мяне не важна, ці Багамаці пасля нараджэння Ісуса мела са сваім мужам дзяцей, ці была незамужняй. Быць замужам і мець дзяцей — гэта не грэх, нават для Багародзіцы. Сляпая вера ў тое, што ёсць няпраўдай, не ёсць добрая. А марыйны культ у каталіцызме дайшоў ужо да карыкатуры, калі іконы Маткі Боскай атрымоўваюць кароны. Гэта супярэчыць другой з дзесяці запаведзей, дадзеных Богам Майсею. З ікон Маткі Боскай стварылі куміры, а іх жа малявалі людзі, злікідавалі нават другую запаведзь, бо яе не выконваюць. Я не супраць ікон, але не магу згадзіцца, каб з іх рабілі багоў ці багінь.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

## IV УСЯЛЕНСКІ САБОР, ХАЛКІДОН, 451 г.

Гэты сабор быў скліканы з мэтай асуджэння ерасі монафізітызму. Адным з самых найбольшых праціўнікаў ілжэнавукі Нестара быў канстанцінопальскі архімандрыт Яўціхій. Адкідаючы нестарыянскую ерась папаў ён адначасова ў другую крайнасць, прапаведваючы, што ў Хрысце трэба прызнаваць толькі Боскую натуру. Монафізітызм пачаў распаўсюджвацца больш актыўна, чым папярэдняя ерась. Апекавацца Яўціхіем стаў александрыйскі патрыярх Дыяскор, які сваімі тэалагічнымі ведамі значна адрозніваўся ад Св. Кірылы. Здолеў ён перацягнуць на свой бок нават імператара Феадосія II, які лічыў Дыяскора яркім паслядоўнікам праваслаўя. Тады за абарону чысціні веры выступілі канстанцінопальскі патрыярх Флавій і рымскі папа Леў Вялікі. Дыяскору ўдалося аднак склікаць пад патранатам імператара сабор у Эфесе ў 449 годзе. Не жадаючы высветліць тэалагічныя спрэчкі шляхам разважанняў і дыскусій, разагнаў ён і асудзіў епіскапаў, якія захоўвалі чысціню праваслаўнай веры. Трыумф монафізітаў не трываў аднак доўга. Наследнік Феадосія, імператар Маркіян склікаў у 451 годзе ў Халкідоне Усяленскі Сабор, у якім прыняло ўдзел звыш 600 епіскапаў. Сабор асудзіў Яўціхія і яго прыхільнікаў за іх ілжэнавуку і вырашыў прызнаваць у Хрысце дзве натуры: Боскую і чалавечую. Хрыстос — гэта Бог народжаны перад вякамі ад Айца, а як чалавек — нарадзіўся з Прасвятой Дзевы Марыі і ва ўсім Ён падобны да нас, за выключэннем грэху.

Пастанову Халкідонскага Сабора не прызналі г. зв. усходнія цэрквы, якіх завуць дахалкідонскімі: каптыйская (у Егіпце), сірыйская (сірыйска-якабіцкая), эфіопская, армянская і малабарская (у Індыі).

Халкідонскі Сабор устанавіў 30 канонаў. Вось два з іх:

7. Мы пастанавілі, што асобам раз прынятым у духоўны або маназкі стан нельга прымаць ні вайсковай службы, ні цывільных пасадаў. Тых, якія адважацца ўчыніць такое і не вернуцца ў раскаянні да таго, што раней выбралі дзеля Божай хвалы, трэба праклясці.

22. Духоўным нельга пасля смерці свайго епіскапа браць сабе прадметы, якія належалі да яго, згодна старым канонам (Апостальскі 40). Хто аднак зробіць такое, падвяргаецца небяспецы страты свайго сану.

**С. Н.**

## СВАЕ НЕ ЗАБЫВАЮЦЬ

На старонках „Нівы" не раз інфармавалася, што адбудоўваецца Успенская царква ў Чыжах. Паўстае яна на месцы згарэлай драўлянай царквы XVII стагоддзя. Новую царкву відаць здалёку, яна дамінуе над чыжоўскімі хатамі. Самім прыхаджанам цяжка было б узвесці такую святыню. Трэба не толькі паставіць будынак, але і выканаць поўны інтэр'ер. Дапамагаюць ім у гэтым людзі з іншых прыходаў, а таксама беларускія эмігранты з Амерыкі. Беларуская праваслаўная царква ў Чыкага перадала 500 долараў ЗША на патрэбы чыжоўскага прыхода. Зборкай грошай займаліся Ірына і Яўген Макарэвічы, родам з Беласточчыны. Гэты дар — не толькі матэрыяльная дапамога, але і прыклад глыбокага пачуцця еднасці беларусаў. Варта падкрэсліць, што царква св. Юрыя ў Чыкага ўжо не раз адгукнулася на патрэбы праваслаўных беларусаў Беласточчыны.

**АНТОН МІРАНОВІЧ**

## ПОБАЧ СВЯТОЙ ГАРЫ

18 жніўня, як штогод у гэтую пару, Святая Гара ў Грабарцы становіцца месцам, да якога ідуць і едуць паломнікі з усёй Польшчы. Можа не было ў гэтым годзе 50 тысяч, як напісала „Gazeta Współczesna" (н-р 160), але ўсё-такі столькі праваслаўнага народу нідзе больш у такой колькасці ў нашай краіне не збіраецца. Тыя, якія прыехалі на Свята Праабражэння на сваіх машынах, былі прыемна здзіўлены. Ад станцыі Сычы да самой Святой Гары пралегла асфальтавая дарога. Ніхто не закапаўся ў пяску, нікому не заварылася вада ў маторы аўтамашын.

Гледзячы збоку на Святую Гару, відаць было сівы туман пылу, які ўздымаўся ўверх, якога аднак так не адчувалася, стоячы каля царквы ў час вячэрняй багаслужбы. Толькі той, хто меў на сабе цёмную вопратку, мог на другі дзень пераканацца, што рух некалькіх тысяч людзей па высахлай зямлі ўзбагачае прастору нябачнымі мікраэлементамі.

На Святой Гары ўзвышаецца новая святыня. Яшчэ год таму ні звонку, ні знутры не рабіла яна найлепшага ўражання. Сёлета Праабражэнская царква надта змянілася. Звонку выглядае яна драўлянай, што разам з архітэктурнай фігурай напамінае згарэўшы храм. Дах, накрыты меднай бляхай, гарманізуе з наваколльнай прыродай. Пазалочаныя купалы ўпрыгожваюць і чыняць дастойнай гэтую найважнейшую праваслаўную святасць у Польшчы.

На Грабарку, як штогод, прыбылі розныя людзі. Адны ішлі пяшком з Саколкі, Беластока, Яблачына, каб перш за ўсё памаліцца і скласці ахвяру Богу. Ахвяру — у форме малітвы і стрыманасці ад штодзённых спакусаў. Іншыя — прыехалі цягнікамі, на аўтобусах і на сваіх машынах — бо лічылі, што ў гэты вечар трэба быць на святым месцы. Яшчэ іншыя паставілі сабе перш за ўсё камерцыйныя мэты. Традыцыйна, 250 метраў ад Святой Гары пачынаўся базар. Было там амаль усё, што можна знайсці ля вуліцы Кавалерыйскай у Беластоку. Недалёка ад стаянкі аўтамашын размясціўся нават луна-парк.

Побач манастыра плён сваёй інтэлектуальнай творчасці экспанавалі беластоцкія пісьменнікі і мастакі. Былы супрацоўнік нашай рэдакцыі Уладзіслаў Петрук прапанаваў паломнікам паштовыя карткі з выявай Святой Гары. Мікола Гайдук, вядомы публіцыст і эсэіст, ледзь паспяваў падпісваць сваю апошнюю кніжку „Паратунак".

Не спалі таксама кандыдаты ў паслы ды сенатары. Калі хтосьці не чытаў прэсы і не слухаў радыё, мог у рэшце рэшт даведацца, хто збіраецца бараніць яго інтарэсы ў парламенце.

Вялі там і сваю шаптаную прапаганду людзі з апошняй хвалі сацыяльнагаі культурнага ўздыму, прэтэндэнты на сучасныя маральныя аўтарытэты. Згодна з мясцовай традыцыяй найпрацей палепшыць свой імідж, кампраметуючы іншых. От, такое сканцэнтраванае на невялікай плошчы беларускае пекла, на якое не мае ўплыву нават акружаючая годнасць і святасць.

Калі на Святой Гары епіскапы, святары і вернікі маліліся за жывых і мёртвых, навокал кіпела нашае звычайнае, штодзённае жыццё.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## ЛІСТЫ ДАНУТЫ БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ

**Ада, дзень добры!**

Дзякую за „Ніву", за невялічкі ганарар. Даўно табе не пісала. Абяцала запрасіць цябе на адкрыццё новай экспазіцыі ў Доме Максіма Багдановіча, але гэта ўсё адкладваецца.

Музей усё рамантуецца. Унутры будынку рамонт, дзякуй Богу, набліжаецца да канца. Накладваем шпалеры і застанецца падлога, якую ў мемарыяльных пакоях лакам пакрыем, а ў экспазіцыйных — фарбай. Але тады пачнецца новы этап — мантаж мэблі, якую робяць нам на менскім камбінаце „Мастацтва", і работа мастакоў. Мэблю з мінулага стагоддзя трэба яшчэ і рэстаўраваць. Але збольшага яна ў нас ужо ёсць. Збіраем цяпер цацкі, якімі гуляў Максім з братамі. Драбязу. Маем, да прыкладу, фісгармонію, інструмент, на якім магла іграць Марыя Апанасаўна, а які сапраўды ад канца мінулага стагоддзя знаходзіўся ў Гродне, пад яго акампанемент вучылі спяваць хор пры Саборы, а ў канцы на ёй іграў унук беларускага пасла ў польскі сойм Якавюка...

Месяцаў з дзесяць у музеі быў завал. Рабочыя перацягвалі дом паэта ў падсобку, каб распранууцца ды чарку куляць. Я да начальства: і да рамонтнікаў, і да музейнага — маё начальства — у гісторыка-археалагічным музеі ў Гродзенскіх замках, — а яны адказваюць адно: няма будаўнічых матэрыялаў. Паехала я ў Менск да міністра Вайтовіча. Прыняў мяне без чаргі, выпілі па кубачку кавы. Міністр кажа: „Што ж Вы да мяне раней не прыехалі, я на днях выклічу начальніка ўпраўлення культуры Брыкача да сябе на дыван". Я пытаю: „А будаўнічых матэрыялаў Вы не маглі б нам дастаць?" А ён кажа: „Міністры гэтым не займаюцца".

Пішу тады я лісты ў газеты на адрасы тых карэспандэнтаў, якія больш-менш дзелавыя. А яны мае лісты перасылаюць дэпутату ад апазіцыі Маркевічу, які даўно пераходзіць вуліцу на другі бок, калі я іду насустрач.

Пайшла я да намесніка старшыні абвыканкама. Да самога старшыні сакратарка не пусціла. А намеснік прыняў. Крыху мне пра маладосць паўспамінаў, а я ў паўзах сваё стрымана-слёзнае паведамленне пра музей Багдановіча, які знікае ў будаўнічым смецці.

Праз дні чатыры наранку іду ў тое РСУ-4, сустракае мяне намеснік начальніка РСУ, пры мне накідваецца на прараба Паула, каб усё ўпраўленне пачула, крычыць так: „Чтобы ты со вчерашнего дня эту женщину имел ввиду на первом месте". У той жа дзень прыбягае сам начальнік у музей, усхваляваны такі, і абяцае з наступнага тыдня пачаць у музеі рамонт ужо па-сапраўднаму, а не са здзекам. Я кажу яму, што ён ужо мне абяцаў не раз. А ён кажа, што абмануў толькі адзін раз, а болей не будзе. І праўда. Калі сам Мікалай Яфрэмавіч, намеснік старшыні, са світай завітаў яшчэ праз колькі дзён, то ў нас ужо ажно гудзела праца. Замест двух п'янчужак далі нам Марыю і Алену, якія гладзяць сцены і ўсё ў мяне распытваюць то пра Каліноўскага, то пра Максіма, то пра Вострую Браму ў Вільні.

Затое замарозілася ў мяне рэстаўрацыя дома звонку. Бо гэтую працу ўзялося рабіць адно МП (*малое прадпрыемства — рэд.*). Але я пачакаю крыху апавядаць табе аб гэтым іншым разам. Бо зашмат аб рамонце... І неяк усё размарозіцца.

**Твая Дануся**

## НАШЫ НАСТАЎНІКІ Ў МЕНСКУ

Падчас канікулаў настаўнікі і вучні звычайна адпачываюць. Не ўсе аднак. Сёлета ў жніўні група настаўнікаў беларускай мовы з Беласточчыны павышала свае кваліфікацыі ў Менкім дзяржаўным педагагічным інстытуце па метадыцы выкладання мовы і літаратуры ды гісторыі і культуры Беларусі. Лекцыі чыталі самыя лепшыя выкладчыкі. Заняткі былі вельмі цікавыя, змястоўныя.

Апрача выкладаў, у настаўнікаў — сёлета ўпершыню на курсы прыехалі педагогі з Літвы і Эстоніі — былі цікавыя сустрэчы, між іншым, з рэктарам і загадчыкамі кафедраў МДПІ, з рэдакцыйным калектывам „Роднага слова" (з ім замацаваліся цесныя кантакты), з прадстаўнікамі Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства „Радзіма").

Удзельнікам курсаў арганізоўвалі экскурсіі ў родныя мясціны Якуба Коласа (Акінчыцы, Мікалаеўшчына), у старажытны Нясвіж (яму 770 гадоў), у Хатынь і на Курган Славы. Наведалі яны таксама музеі, між іншым Музей старажытнай беларускай культуры і Музей Янкі Купалы ў Менску.

Пра пабыўку ў Менску настаўнікаў з-за мяжы пісалі ў „Звяздзе", была спецыяльная радыёперадача на Менскай студыі — з удзелам кіраўніка групы настаўнікаў, візітатара Беластоцкай куратарыі асветы Тамары Русачык. „Роднае слова" падрыхтавала да друку падборку лірычнай прозы Янкі Целушэцкага ў спецыяльнай рубрыцы „Літаратурны ветразь".

Усе ўдзельнікі курсаў — гэта варта адзначыць — добра пазнаёміліся са сталіцай Рэспублікі Беларусь ды ўстанавілі асабістыя кантакты з выкладчыкамі з Менска. У кожнага настаўніка засталося многа незабыўных уражанняў ад пабыўкі ў Беларусі.

**ЯНКА ПАДАРОЖНІК**



*У Акінчыцах.* **Фота Я. Целушэцкага**

## БАРАЦЬБА ЗА ВУЧНЯЎ

*Працяг са стар. 1*

справа грошай — тых няшчасных 10 мільёнаў, якія запаланілі ўяўленні многіх. На што яны ідуць? Войт растлумачыў, што на ўтрыманне будынка, на зарплаты для настаўнікаў, на школьныя дапаможнікі і г.д. „Калі вы пазбаўляеце нараўскую школу гэтага дафінансавання, — казаў ён, — можа так стацца, што давядзецца адводзіць грошы на яе з вашых падаткаў. Бо школа ў Нарве функцыянаваць мусіць".

У размове выявілася яшчэ адна прычына — апрача зручнейшага даезду (памойму, справа сумніцельная) — таго, што бацькі не хочуць пасылаць дзяцей у Нарву. У Кленіках то мы ў сябе, нашы дзеці могуць гаварыць па-свойму, казалі бацькі на сустрэчы, а ў Нарве яшчэ за гэта іх адлупцуюць аднакласнікі. Бо, хаця там і большасць беларусаў, але ўжо нараўскія стараюцца гаварыць выключна па-польску.

Цяжка было б з гэтым аргументам не пагадзіцца. Войт адказаў: „Тое, якой будзе школа ў Нарве, залежыць таксама і ад вас. Я ўжо пераконваю дырэктара школы, каб увесці — па прыкладу Захаду — абавязковае навучанне беларускай мовы, каб дзеці, якія ходзяць на гэтыя ўрокі не адчувалі сябе дыскрымінаванымі. Каб сапраўды ўзгадаваць талерантных людзей, палякі, якія жывуць побач з намі, таксама павінны ведаць нашу мову, культуру. Тым больш, што гэта можа стаць добрым бізнесам на будучыню, калі паглядзець, што побач маем незалежную Беларускую Рэспубліку".

Жыхары (жыхаркі) Тыневіч палічылі гэты вобраз крыху ідэалістычным і рашылі ўсё-такі пачакаць. Калі ўжо спыняць сваю дзейнасць іншыя вясковыя школы ў Нараўскай гміне (ёсць іх яшчэ тры: у Ласінцы, Крыўцы і Трасцянцы), дык тады і нашы дзеці ў такой вялікай школе можа будуць сябе лепш адчуваць, сказалі яны наканец.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## ЛІЦЭЙ — РАНЕЙ ЗА МУЗЕЙ!

23 жніўня гэтага года на пляцы пабудовы Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы праца ішла на ўвесь мах. Новы ліцэй, у параўнанні са старым будынкам школы, робіць каласальнае ўражанне. Пры галоўным уваходзе ў школу, што праўда, ляжалі яшчэ гурбы пяску і жвіру, між якіх мітусіліся работнікі будаўнічай фірмы, але сцяна ад вуліцы Пілсудскага (раней Вызвалення) была ўжо атынкаваная, а вокны на другім паверсе памыты. Дырэктар школы Яўген Сачко якраз любаваўся выглядам фронту будынка ды задумоўваўся, якім менавіта сімвалам упрыгожыць у будучым гэты кавалак сцяны пры ўваходзе.

Беларускі ліцэй у Гайнаўцы, трэба гэта адразу адзначыць, будаваўся з неверагоднай хуткасцю — усе мы ўжо неяк звыкліся з фактам, што хуткасць ажыццяўлення інвестыцый у беларускім асяроддзі вызначаецца ходам пабудовы Беларускага музея ў названым горадзе. З ліцэем, аднак, справа маецца троху інакш. *Tempo zabójcze* — коратка пракаментаваў дырэктар Сачко — каб толькі паспець да 1 верасня, бо ў гэтым годзе набралі мы ў школу столькі вучняў, што ў старым будынку немагчыма будзе праводзіць заняткі.

Упершыню работнікі ўвайшлі на пляц пабудовы 16 чэрвеня 1992 года — былі гэта геадэзісты. Пабудова, практычна, цягнулася год і два месяцы. На сёння, сказаў дырэктар, падрыхтавалі мы ўжо да ўжытку першы і другі паверхі. Толькі што адбылася ў нас рабочая нарада кіраўніцтва школы ды ўсіх настаўнікаў, якія за кошт сваіх канікул вырашылі дапамагчы ў падрыхтоўцы школы да распачацця навучальнага года. Хочам таксама, каб у гэтым тыдні дапамаглі нам бацькі вучняў - будзем працаваць ад сёмай раніцы да сёмай вечара ды рабіць усютка, каб 1 верасня вучні маглі ўвайсці ў новы будынак. Справы зайшлі ўжо так далёка, што не маем іншага выйсця — са старога будынка перанеслі мы ўжо частку абсталявання, ён непрыгодны для карыстання, мусім пачаць навуку ў новым ліцэі. Ці нам гэта ўдасца? Я маю надзею, што так. У гэтым тыдні дапамагаюць нам таксама і вучні. На заканчэнне мінулага навучальнага года зрабіў я заклік, каб вучні па меры магчымасці заходзілі на канікулах у школу ды дапамагалі ў пераносцы. Сёння, прыкладам, прыйшоў клас III „ц" і пераносіць абсталяванне хімічнай залы — у новым ліцэі мае быць сапраўдная хімічная лабараторыя, да сталоў будзе даведзена электрычнасць і газ, але гэта мае ўжо зрабіць фірма, ні бацькі, ні вучні тут не дапамогуць.

Пераход ліцэя з будынка ў будынак адбываецца наспех, будаўнічыя працы напэўна будуць яшчэ нейкі час цягнуцца. Ці гайнаўскія вучні адчуюць палягчэнне ўмоў пасля пераходу ў новы будынак? Дырэктар лічыць, што тыя работы, якія будуць працягвацца, не перашкодзяць у занятках. Стары будынак, сказаў, быў вельмі цесны — вучні нават пераходзіўшы з залы ў залу, таўкліся адзін аб аднаго. Мелі мы ў ім усяго дзесяць залаў — быў нават клопат з распіскай плана заняткаў. У новым будынку зусім іншыя ўмовы, палепшацца нават адпачынак вучняў — калідоры ў школе прасторныя, ёсць аўдыторыя, кожнаму класу свая дыдактычная зала і асобная раздзявальня. Напэўна ў першых тыднях навукі вучні адчуюць, што не ўсё яшчэ так, як ім гэта ўяўлялася, але прычына тут у той паспешлівасці, з якой мы пераводзімся. З часам гэта ўнармуецца. Будуць яшчэ цягнуцца работы ў школьнай сталоўцы, але ў дыдактычных занятках яны не перашкодзяць — расклад будынка такі, што сталоўку можна ізаляваць ад рэшты.

### ПАСПЕЮЦЬ, ЦІ НЕ?

У падрыхтоўку ліцэя на новы навучальны год ангажаваўся цэлы настаўніцкі калектыў. Не ўсе настаўнікі, адзначыў дырэктар, пераканаліся ў тым, што ўдасца нам усё-такі падрыхтаваць школу да 1 верасня, але, тым не менш, уключаюцца ў працу з вялікай энергіяй. У канцы тое, у якіх умовах будуць яны працаваць залежыць ад таго, як яны самі цяпер уладкуюцца ў гэтым будынку. Прыйсці на працу 1 верасня — гэта мала. Ужо цяпер трэба задбаць пра свой інтарэс. Урок — гэта не толькі 45 хвілін, яго трэба рыхтаваць адпаведна раней. Цяпер умовы працы настаўніка мяняюцца ў нас настолькі, што кожны з іх такую магчымасць будзе мець. Трэба толькі, каб кожны настаўнік адпаведна раней парупіўся пра сваю залу і пра свой куточак у ёй.

З цягам часу, адзначыў дырэктар Сачко, у школе павялічыцца падагагічная кадра. Пакуль новых настаўнікаў на працу прыйшло трох, хаця прашэнняў ляжыць ужо куча. Перад усім мусіць павялічыцца колькасць вучняў, а на гэта спатрэбіцца два-тры гады. Тыя звышгадзіны, якія ўзніклі ў сувязі з большым наборам кандыдатаў на гэты навучальны год, былі распісаны сярод настаўнікаў, якія ўжо працуюць. Павялічалася ў школе колькасць працаўнікоў тэхнічнай абслугі — не вырашылася толькі справа ацяплення школы, прашэнняў на працу ў кацельні таксама шмат.

Заканчэнне пабудовы будынка ліцэя, сказаў Яўген Сачко, не завяршае яшчэ нашай інвестыцыі. Школа не мае спартыўнай залы — гэта менавіта і наступны пункт нашай працы. Пабудова гэтай залы пачынаецца з грамадскага фонду. Ці ўдасца яе пабудаваць пад наступны навучальны год — цяжка цяпер сказаць.

На заканчэнне трэба згадаць асобу папярэдняга дырэктара гайнаўскага ліцэя Васіля Дамброўскага, які быў сярод пачынальнікаў ідэі пабудовы новага ліцэя. Гэта за яго дырэктарства ўся інвестыцыя была забяспечана з фінансавага боку.

**(алм)**

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 404*


## ДЭБЮТ

*Маргот Гінц, народжаная 28 кастрычніка 1969 года ў горадзе Пуцк (Гданьскае ваяводства). Год працавала настаўніцай. Зараз студэнтка чацвёртага курса славянскай філалогіі Каталіцкага універсітэта ў Любліне. Друкуецца ўпершыню.*

ЯЧ

*МАРГОТ ГІНЦ*

### ЦЭЛЫ ДЗЕНЬ

Цэлы дзень свой дзень малюю,
працай пальцаў працу цалую,
канца вобраза не ведаю.

Цяжка будзе стварыць галерыю
добрых твораў, амаль містэрыю,
хаця тэма універсальная.

На свеце столькі вобразаў паўстае
І толькі нейкі да неба дасягае.
Якая радасць маляру!

* * *

Твая душа мой сон кранае,
У вочы ўходзіць як праменні,
Раскошна сэрца абдымае,
Танцуе з чортам ў захапленні.

Так цяжка мне у тыя ночы
З гнязда свайго адно галёкаць!
На што не ведаю чакаю —
На смерць маю ці нараджэнне?

Такое дзіўнае каханне
Прыносяць ночы да мяне.
І кашмар цёмны зноў цягне
Смертаносны прывід-зданне.

*ГАЛІНА ТВАРАНОВІЧ*

### СЯБРУ

У мяне, смяротнай,
пытаешся пра тое, што ведама
толькі Неўміручаму, Дасканаламу
і Таемнаму нашаму Богу-Бацьку,
воляй Якога разгорнута
дзівосная мапа Сусвету
з горнім і дольнім паверхамі.

Пэўна знаю адно:
дарэмна чакаць прызнання
нябёсаў абранніку
у цяснінах чалавечага шляху.

*МІРА ЛУКША*

* * *

будуць судзіць паэта
украў адзін дзень Богу
світанак Слова найсампершы

* * *

павесілі на сцяне нашага вакзала
расклад усіх цягнікоў да дабра і зла
ды нікому не ведаць дарогі
да Ітакі ссівелай што ляжыць
неўрадлівая



*Мікола Давідзюк, Анпрофас, 1985 г.*

*ЗЬНІЧ*

### БЕЛАСТОЧЧЫНА

... праз сьцішаны матыў:
memento... —
плыву ў хвалях
блізкіх душ...
б о г а п а к і н у т а с ь ц ь
ня руш
краіну руж
і дыямэнтаў ...

### АБУДЖЭННЕ Ў ТРАЎНІ

... сплю — у пялёстках сьліў...
сьнежным квецені яблынь...
стала жытлом духмяным
тое, што ў сьнежні сьніў...

... зоркі паміж галін...
поўня — царыца ночы...
... нешта ўспомніць хоча
ў споведзі — блудны сын...

... раніцай сонца ласкава
яблынь кранае бель...
даўка сьпявае чмель...
... ... рай на зямельцы —
я в а!..

*11 траўня 1993 г.*

*УІЛЬЯМ ШЭКСПІР*

### САНЕТ 91

Хто ганарыцца тытулам, хто — сілай,
Хто — спрытнасцю сваёй ці тоўстым
кашальком,
Хто — модным строем, вышытым
цярпліва,
Хто — зграяй псоў ці юрным жарабцом.

І кожны ганарліва паглядае,
Сябе шчаслівым лічыць, не другіх.
Я ж ні на што свой скарб не прамяняю,
Бо для мяне — ён самы дарагі.

Мілей кароны мне тваё каханне
І даражэй за грошы ці парчу,
Уцешней сокалаў для палявання, —
Сябе найбагацейшым я лічу.

Адыме хто маёнтак мой адзіны —
Я жабраком зраблюся той хвілінай.

**Пераклаў Юрка Кісялеўскі**

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## РУСКІ БАЗАР

Хоць і грэх гэта, але хочацца пазайздраваць Госпаду Богу нашаму, які ціхамірна адпачываў быў у сёмы дзень пасля стварэння Ім свету. Добрая ў Яго, спакойная і прадуманая, без неспадзевак арганізацыя працы. Зусім не тое, што ў мяне... Накупіў я на сваю галаву хатняе тэхнікі, каб лягчэй мець у штодзённы побыт. Не лічыўся, булава, з новай мудрасцю, што машынерыя ў руках варвара — горш гранаты!

А ўсяму вінаваты, папраўдзе, той дзікарускі базар, што рассеўся бабамі ў мястэчку. Каб не ён, жылося б, хай сабе надалей прымітыўна, аднак, як у Бога за плячыма. Да маладаступнасці нам польскіх цэнаў мы прызвычаіліся ў спрадвечнай тут беларускай бяздарнасці і багацеем толькі ў марах. Радуемся прытым, што ў параўнанні з расійскім абадранствам, то і без варшаўскага шчасця бяды нямаш.

Беларускія саветкі з-за кардону навалаклі на рынак сюды дарэмшчыны. Няйначай сам Сатана падкусіў мяне набыць у іх мікрахфалевую духоўку, плацячы ім за яе менш, чымсьці нядаўні мой штраф, што ўляпіў мне паліцыянт за абразу ягонае службовай асобы (я спрабаваў вытлумачыць яму, што ён ёсць дурань ды ганьба Польскай Дзяржавы). Мікрахфалёўніца, быццам з ласкі адпрацаваўшы неяк палову гарантыйнага тэрміну, загарэлася. Спачатку валіў дым ад ейнага трансфарматарыка, чамусьці рыжы і з попахам гарачых бульбяных пляцкаў. Заўважыўшы, што ад яго здыхаюць мухі ў кухні, я прафілактычна ўключаў час-часам гэту маскальскую канструкцыю, пакуль — аднаго разу — не жыхнула з яе полымем.

Вырашыў абмежаваць свае амбіцыі да куплі электрычнае брытвы (якраз „Бердск" перапрадаваў за сабачы грош сваякаваты мне капрал былое арміі Андэрса, што карпела некалі на італьянскім фронце). Машынка на выгляд выклікала давер, накшталт жуліка з тварыкам анёла. Калі застаўся я з ёю сам-насам перад люстэркам у пакоі, тая механічная зараза кусанула мяне за верхнюю губу, зрэзаўшы пры гэтым бародаўку (хто ведае, ці не ракатворную?). І буяла, усё роўна што самалёт у вайну, што бамбіў маянтковыя хлявы, у якія пахаваліся былі нямецкія ўкраінцы, захапацеўшы тутэйшыя курвы... Колькі яе потым не мазаў я аліваю, ні трохі не папраўлялася. Урэшце ўзяла і захліснулася. Аддаў неўдалоту ў цацкі дзецям, а яны, засранцы, напалохалі бліскучкаю цётку Мальвіну з Баб'яе Гары, ад якое не мелі мы дагэтуль адбою (памятала яна пра якіясьці процітанкавыя міны, на якіх падарваўся яе нябожчык мужык, што вёз возам сена з Чортавага Балота, калі саветы пагналі немцаў ужо пад Беласток, у сорак чацвертым).

Падумаў: Бог з жалязякамі — спірту набяруся на тым базары. А каб не, збылі мне яго танней самагону. Прычакаў нядзелі, каб паспытаць, бо ў будзень усё ж забаяўся: работы шмат. Адразу пацямнела ў мазгаўні ад яго; у вачах жа крыху пазней, калі ахапіў мяне прымус бегчы ў прыбіральню, у якой, здавалася, так і памру, загаліўшыся... Кідала ў дзіўны холад. Шчасліва здагадаўся піць кіслае малако.

Не адзін я аказаўся дурнем. У Баб'яй Гары ўсё вяселле гэтак выкаціла. Казалі: маладуха першаю брыкнула ўверх нагамі, растапырыўшыся на падлозе... Гэта паратавала маладога, які не паспеў па-хамуцку наліць сабе горла. Іншых пакалечыла лакомлівасць на глыбокую чарку. Дзякаваць Богу, пайшоў на той свет адзін усяго сват. Праўда, старшага дружбанта выпісалі са шпіталя вар'ятам. І чыюсьці дзеўку, якая цяпер рагоча без дай прычыны, голаю сядае пакатацца на ровары... Найбольшае дзіва, што постбальшавіцкі спекулянт, раскватараваўшыся ў іх, запісаўся потым жыць з бяздзетнай удавою свата і, прыдбаўшы на гэтай падставе польскія паперы, драпануў у Нямеччыну.

Пакуль тая камедыя здарылася, я не падараваў нагодзе старгаваць запалак з горада Чудава, фабрыкі „Пралетарскае полымя". Зрабіў запас. Як ні шморгаў пасля іхнымі галоўкамі, агнём не займаліся, акрамя некаторых... З якіх, акурат добрая, зламалася і адляцела ў кут са смеццем ды старымі газетамі. Скончылася тым, чым павінна было: хату не спаліў, выратаваў, але мышэй ляснула!

Кінуў хадзіць на базар.

Грошай як бы пабольшала ад гэтага часу, хаця я імі ніколі не раскідаўся. Цяпер жа яксьці сонна на душы... Няўжо адкрыў я гэта прыгажосць катастрофы і, разам з тым, сэнс самое Расіі?

<u>ЗЁЛКІ-ЛЕКІ</u>

# МОРКВА

Агароднінныя расліны часта выкарыстоўваюцца не толькі для падрыхтоўкі смачных і пажыўных страў, але і з лячэбнымі мэтамі. У гэтых адносінах не выключэнне і морква (*Daucus carota* L.).

Морква гэта двухгадовая расліна, якая расце ў натуральным стане ва ўмеркаванай зоне амаль цэлага паўночнага паўшар'я. У Польшчы расце дзіка на нізінах і ў падгорных мясцовасцях — на лугах, пагорках і прыдарожжах.

Яшчэ ў пачатках Рымскай імперыі рымляне пачалі сеяць моркву ў хатніх умовах, аднак жа праз нейкі час яе пераcталі вырошчваць. Ізноў пачалі яе вырошчваць у Афганістане ў пачатку XII стагоддзя новай эры. Быў гэта пурпуровы гатунак морквы. Жоўты гатунак вырошчваўся ў Іране ці Сірыі у IX ці X стагоддзях. Морква з аранжавым каранем паяўляецца ў XVII стагоддзі ў Галандыі як від жоўтай морквы і паступова распаўсюджваецца па свеце.

Здаўна ў народнай медыцыне цертую сырую моркву, палітую алеем, выкарыстоўвалі ў дзіцячай практыцы як сродак ад глістоў і запораў, а вараную моркву давалі аслабленым хворым з задышкай, кашлем, хранічнымі запорамі, гемароем. Адвар ці настой бацвіння ў сумесі з пятрушкай прымалі для выдалення пяску з мачавых шляхоў, пры захворваннях печані і жоўцевага пузыра, а сок з морквы (па паўшклянкі ў дзень) рэкамендавалі пры парушэнні сардэчнай дзейнасці, захворваннях вачэй, пры запальных працэсах ў роце, як полівітамінны і агульнаўзмацняючы сродак, пры недахопе малака ў кормячых матак, пры прастудных захворваннях.

Таксама ў народнай медыцыне нацертую сырую моркву прыкладваюць да апёкаў, ранаў, якія цяжка гояцца. Свежым сокам палошчуць рот пры стаматытах, ангінах, кашлі, ахрыпласці.

Часамі сок з морквы выкарыстоўваюць у хатняй касметыцы, паколькі было адзначана, што ён надае скуры твару свежы і аксамітны выгляд. Вось адзін з рэцэптаў касметычнай маскі. Памытую моркву труць на дробнай тарцы, дадаюць сыры жаўток і перамешваюць. Сумесь кладуць тоўстым пластом на твар і трымаюць каля паўгадзіны, пасля здымаюць яе тампонам з ваты, змочаным у цёплай вадзе, а твар змазваюць асвяжаючым крэмам. Прымяненне такой маскі адзін-два разы ў тыдзень робіць скуру далікатнай, эластычнай, згладжвае маршчыны.

Такім чынам, для лячэбных мэт збіраюць восенню свежы корань морквы — *Radix Dauci recens*, а таксама спелыя парасоны з насеннем, якія сушаць у цяністых і прадуўных месцах, а пасля малоцяць і атрымліваюць насенне морквы — *Fructus Dauci*.

У выпадку, калі даем прэпараты з морквы немаўлятам і малым дзецям, а нават і дарослым, неабходна памятаць, што гэткая морква павінна вырошчвацца ў агародчыках або ў агароднінных гаспадарках, дзе не прымяняюцца мінеральныя ўгнаенні, асабліва азотныя, паколькі морква, якая вырошчваецца на гэтых угнаеннях, можа не ўспрымацца пацыентам, а нават выклікаць небяспечныя атручэнні.

### СОК З СВЕЖАЙ МОРКВЫ

Выціснуты сок крыху пасаладзіць ці дадаць фруктовага соку. Немаўлятам даваць па 20—40 г у дзень, падзеліўшы на 2—3 порцыі. Малым дзецям даваць па 40—60 г у дзень, дзелячы на 2—3 порцыі, як сродак вітамінны і паляпшаючы працу страўніка. Дарослым рэкамендуецца да 120 г соку ў пачатковай стадыі дыябету (цукрыцы).

### СВЕЖЫ КОРАНЬ МОРКВЫ

У выглядзе сырых салатаў рэкамендуецца пры дыэтэтычных парушэннях у дарослых, пры аслабленні зроку і пачатках так званай курынай слепаты, а таксама пры некаторых скурных хваробах, звязаных з недахопам вітаміну А ды (дапаможна) пры артэрыясклерозе.

Лячэнне сокам і салатай з сырой морквы нельга цягнуць цэлымі тыднямі, паколькі празмернае насычэнне арганізма вітамінам А можа выклікаць сур'ёзныя атручэнні.

### ГАРОДНІННЫ СОК

Роўную колькасць свежых карэнняў морквы, буракоў ды агуркоў прапусціць праз мясарубку і з мязгі выціснуць сок (можна выкарыстаць сокавыціскалку). Сок захоўваць у халадзільніку 24 гадзіны альбо стэрылізаваць у слоіках, але тады траціцца частка вітамінаў. Піць сок па паўшклянкі ў дзень, асабліва зімою і ранняй вясною. Гародніна гэта павінна вырошчвацца без мінеральных угнаенняў. На думку заходніх дыэтэтыкаў, сок з гародніны ўплывае на цэлы арганізм, рэгенеруе працу розных унутраных органаў, а перш за ўсё печані і страўніка, узмацняе скуру, вочы і абаронныя механізмы арганізма, дадае сіл, асабліва пажылым людзям і дзецям. Сок з гародніны можна саладзіць цукрам ці мёдам.

### ГАТОВЫЯ ПРЭПАРАТЫ

*Daucaron* **(Германія)** — высушаны прэпарат з морквы. Падаецца нават немаўлятам пры парушэннях працы страўніка, пры паносе, кепскім апетыце і працяглых атручэннях. Доза — да 40 г у 1 літры вады.

*Daucarin* **(былы СССР)** — таблеткі, падрыхтаваныя з экстракта насення морквы. Яно аказвае сасударасшыраючае і спазмалітычнае ўздзеянне на арганізм і назначаецца лекарам па адной таблетцы 3—5 разоў у дзень за 30 мінут да яды пры артэрыясклерозе, стэнакардыі. Лек прымаюць на працягу 2—4 тыдняў.

**ЭСКУЛАП**

## НА ЗАРОБКІ... З АМЕРЫКІ Ў БЕЛАРУСЬ

Летась мінчанін Цыгановіч згубіў свой пашпарт. Нічога дзіўнага тут няма — не з'яўляючыся, мякка кажучы, грамадзянінам узорна-паказальных паводзін, згубіць ён мог яшчэ і не тое. І не было б тут вялікай бяды, каб той пашпарт не аказаўся ў чужых руках, больш таго — у руках замежных. Сёння ўжо цяжка сказаць, ці то былы наш суайчыннік, а цяпер жыхар ЗША Барыс Леанідавіч Г. сам знайшоў сярпастамалаткасты недзе пад плотам, ці то ён да яго трапіў больш складанымі шляхамі. Але распарадзіўся госць з-за акіяна знаходкай надзвычай эфектыўна.

Найперш Барыс у тым жа 1992 годзе рэгіструе ў Фрунзенскім райвыканкаме г. Мінска на імя Цыгановіча фірму з таямнічай назвай „Ніцыял". Бухгалтар фірмы па прозвішчы Жэўна ў далейшым так і не адшукаўся, затое высветлілася, што вадзіцель Жэўна ў свой час таксама губляў пашпарт. Але людзі ў Фрунзенскім выканкаме працуюць чулыя, даверлівыя, і фірма была зарэгістравана.

А 9 сакавіка гэтага года фірма „Ніцыял" бярэ ў маскоўскім аддзяленні аднаго з банкаў крэдыт у 50 мільёнаў рублёў пад 75 працэнтаў гадавых. Папярэдне, 4 сакавіка, „Цыгановіч" застрахаваў крэдыт у акцыянернай страхавой кампаніі „Хрысціянская місія". Зразумела, банку патрэбны гарантыі. Поўная назва дагавора н-р 248 — „Дагавор страхавання рызыкі непагашэння крэдыту". Згодна з ім страхавая кампанія павінна была зарабіць 11 з нечым мільёна рублёў. Але — рызыка ёсць рызыка, што зробіш.

Крэдыт, ды яшчэ мэтавы, — гэта яшчэ не грошы. Таму „Ніцыял" заключае дагавор з іншай фірмай (якую пакуль што называць не будзем) на пастаўку партыі паўднёвакарэйскіх тэлевізараў. 50 мільёнаў рублёў пераходзяць на рахунак фірмы, пасля чаго дагавор у гэты ж дзень захоўваецца. Але безнаяўныя грошы трэба неяк ператварыць у наяўныя, і „Цыгановіч" заключае дагавор з прыватным прадпрымальнікам Кажэнавым, які мае свой асабовы рахунак, аб тым, што той будзе для „Ніцыяла" закупляць і рэалізоўваць розныя тавары, галоўным чынам — сельскагаспадарчую прадукцыю. Вядома, ніякіх планаў завaліць мінчан свежай агароднінай у прадпрымальных дзялкоў і ў паміне не было, усе іх дагаворы — фікцыя, а Аляксандр Мікалаевіч Кажэнаў, як ён прызнаўся падчас следства, існуе якраз за кошт таго, што ператварае безнаяўныя грошы ў тугія пачкі.

Такім чынам, Кажэнаў на працягу сакавіка здымае ў некалькі прыёмаў са свайго рахунку пераведзеныя яму грошы і перадае „Цыгановічу", пакінуўшы сабе звычайныя камісійныя, у даным выпадку — 5 мільёнаў.

Атрымаўшы дурныя мільёны, амерыканец Барыс пачынае прыгожае жыццё на былой радзіме — купляе шыкоўны аўтамабіль, золата. І толькі адчуўшы, што пад яго пачынаюць „капаць", пераводзіць усе грошы і каштоўнасці ў „зялёныя" і ў сярэдзіне чэрвеня адбывае за акіян.

Падчас следства, праведзенага работнікамі Фрунзенскага райаддзела міліцыі, высветлілася, што справа на 50 мільёнаў у Барыса была не першай. Крыху раней, у лютым гэтага года, „Ніцыял" у асобе дырэктара „Цыгановіча" ўзяў у гарадской дырэкцыі аднаго з банкаў крэдыт на 20 мільёнаў рублёў.

Многія жыхары нашай рэспублікі мараць паехаць на заробкі за акіян — за доўгім, як гаворыцца, доларам. Аказваецца, ездзяць і да нас, і досыць паспяхова. Зараз следчыя Фрунзенскага РАУС рыхтуюць на Барыса Г. матэрыялы ў „Інтэрпол" — з просьбай аб садзейнічанні ў адшуканні і затрыманні. Надзеі на дапамогу ўяўныя: Беларусь членам „Інтэрпола" не з'яўляецца, трэба дзейнічаць праз штаб-кватэру ў Маскве, шмат часу пойдзе на розныя ўзгадненні. І невядома яшчэ, ці згодзяцца ЗША выдаць аферыста. Пажывём — пабачым.

Застаецца дадаць адно: здзіўляе лёгкасць, з якой у нашай рэспубліцы па зашмальцаваным пашпарце бадзягі можна атрымаць дзесяткі мільёнаў. Няўжо ні ў райвыканкаме пры рэгістрацыі „фірмы", ні ў банку (двойчы!), ні нават у пацярпеўшай страхавой кампаніі нікому не захацелася прыглядзецца да дакументаў больш пільна?

Хаця... тая лёгкасць, з якой „Ніцыял" быў зарэгістраваны, тая шчодрасць, з якой ён атрымаў ільготны крэдыт (75 працэнтаў гадавых — гэта, сапраўды, як падарунак, звычайна стаўкі ўдвая большыя), наводзяць на думку, што тут не простае галавацяпства, а магчыма, нешта іншае.

**АЛЯКСАНДР БЯРСУДСКІ**

„Звязда", н-р 134




## ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

### ЧАСТКА X

Цытаванага мною ў папярэднім адрэзку пенсіянера цяжка залічыць да старроннікаў вайсковага саюза Беларусі з Расіяй. Справа ў тым, што ён з'яўляецца энтузіястам Савецкага Саюза, у якім, як вядома, была адна савецкая, а ў істоце руская армія, якая, зразумела, не мусіла і не магла ўваходзіць у нейкія там саюзы з рэспубліканскімі арміямі, бо яны не існавалі. Пенсіянер-палкоўнік горача верыць у адраджэнне Савецкага Саюза, які вернецца да старых „добрых" парадкаў.

Сёння прагну зацытаваць, прыблізна напалову маладзейшага, чым палкоўнік, настаўніка, які прытрымліваецца поглядаў поўнасцю супрацьлеглых да ўжо прыведзенага мною размоўцы. Вось змест яго выказвання:

„Ваенны саюз Беларусі з Расіяй? А прападзі ён пропадам! Такі саюз абазначаў бы ўдзел Беларусі ў розных агрэсіўных дзеяннях Расіі, якая ніколі не адрачэцца экспансіі і захопніцтва. Я рашучы староннік Пазняка. Вы напэўна ведаеце, што Пазняк не пайшоў на спатканне з прэм'ер-міністрам Польшчы Сухоцкай і не пойдзе на ніякую сустрэчу з Ельцыным ці іншым рускім палітыкам. Пытаецце, чаму? А таму, што Расія і Польшча былі адвечнымі агрэсарамі і захопнікамі ў адносінах да Беларусі. Пяцьсот гадоў то адна, то другая трымала нас у няволі. Заключыць з імі саюзы ці пакты гэта тое самае, што дабравольна лезці ў пятлю. Не, у ніякім выпадку не можа быць гутаркі аб саюзах з нашымі адвечнымі прыгнятальнікамі — Расіяй і Польшчай. Вось таму наш Пазняк і не пойдзе з паклонам да тых, хто сёння прыкідваецца прыяцелем, а заўтра стане лютым ворагам. Трэба шукаць іншых выхадаў. Ці вы чулі аб балтыйска-чарнаморскім пакце? Чулі? Ну, дык ведаеце, што гэта ёсць здаровая ідэя трактата паміж тымі народамі, якія ад вякоў цярпелі прыгнёт і ад Расіі, і ад Польшчы. Балтыйска-чарнаморскі пакт пакуль што павінен быць гаспадарчым арганізмам. Пакуль што. У будучым павінен ён пераўтварыцца таксама ў ваенны пакт, які павінен шукаць забеспячэння ды падтрымкі з боку тых еўрапейскіх і нееўрапейскіх краін, якія кіруюцца справядлівасцю, а пры гэтым валодаюць вялікай мілітарнай сілай. Толькі ў такім вырашэнні знаходзіцца гарантыя непарушнасці нашых межаў.

Мы ведаем, што значаць рускія або польскія вудачкі. Ужо не раз Беларусь кіруючыся наіўнасцю і даверлівасцю праглынула рускі або польскі кручок. Кожны народ перад усім павінен мець памяць, якая дазваляе рабіць вывады з гістарычнага мінулага. Ці ж вы не ведаеце, што для ўсіх рускіх і ўсіх палякаў незалежнасць Беларусі гэта стрэмка, якая сядзіць у іх сэрцах? Толькі падумаць, беларускі хам стаў незалежным! Гэта ж нясцерпная з'ява! Вось таму і нараджаюцца ідыёцкія ідэі тыпу ваенных саюзаў, у якіх будзе верхаводзіць Расія або Польшча, а можа разам і Расія, і Польшча, хаця гэтае апошняе мала праўдападобнае. Я думаю, што Расія і Польшча яшчэ не раз могуць схапіцца за горла. І дзе будуць хапацца? Вядома, зноў на беларускай зямлі. Вось таму і Расія хоча заключыць з Беларуссю ваенны саюз для таго, каб паслабіць Польшчу, а ваш прэм'ер-міністр Сухоцкая, у часе прабывання ў Мінску паўстрымоўвала нас ад збліжэння з Расіяй. А чаму? А таму, каб Беларусь падпарадкаваць сабе. Вось і бачыце два агрэсіўныя абліччы нашых агрэсіўных суседзяў. Вы толькі мне не гаварыце, што сённяшняя Польшча не мае ніякіх агрэсіўных намераў да Беларусі! Не гаварыце! Так ёсць сёння, але зусім падругому можа быць заўтра. Беларусь мусіць як найдалей трымацца як ад Расіі, так і ад Польшчы. Не павінна ўваходзіць з імі ў ніякія ваенныя саюзы. Я ўжо сказаў, мусіць заключыць саюз у рамках балтыйска-чарнаморскай еднасці з Літвой, Латвіяй, Эстоніяй ды Украінай. Усе гэтыя краіны налічваюць семдзесят мільёнаў людзей і могуць стаць як гаспадарчай, так і вайсковай магутнасцю, якая ў любы момант супрацьпаставіцца рускай або польскай агрэсіі. Калі толькі Беларускі народны фронт возьме ўладу ў свае рукі, Беларусь стане сапраўды незалежнай дзяржавай з незалежнымі гаспадаркай і замежнай палітыкай ды незалежнай арміяй. Як доўга кіруюць нашай краінай камуністы, так доўга ўсё гэта немагчыма і так доўга Беларусь будзе лезці ў самагубныя саюзы".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Зорка
## Старонка для дзяцей

## ВЕРАСЕНЬ

Цудоўная, непаўторная пара -- залатая восень. Яна здзіўляе багаццем фарбаў. Бледна-жоўтае лісце беластволай бярозкі чаргуецца з аранжава-бурым лісцем дуба, чорна-чырвоным граба і клёна. Асіна гарыць барвова-чырвоным лісцем. Па берагах рэк, у рэчышчах, на ўзлесках кідаюцца ў вочы чырвоныя ягады каліны і шыпшыны. Разнастайнасць фарбаў і адценняў залатой восені пакідае незабыўнае ўражанне.

Днём і ноччу ў паветры бесперапынны рух. Чарада за чарадой адлятаюць у вырай крылатыя падарожнікі. Розныя птушкі ляцяць па-рознаму. Быццам цёмныя хмары, пралятаюць вялікімі чародамі берасцянкі. Невялікімі групкамі і чародкамі адпраўляюцца ў дарогу мухалоўкі, сітаўкі, пеначкі і іншыя насякомаедныя птушкі. Услед ляцяць сіваваронкі, удоды, іваглі. Касяком пралятаюць гусі, касым шнурам -- лебедзі. Але не ўсе птушкі ляцяць чародамі. Па адным адлятаюць зязюлі, ястрабы, лелякі. Дзе ж зімуюць і куды адлятаюць нашы пералётныя птахі? Даведаліся аб гэтым вучоныя пры дапамозе кальцавання. У Беларусі акальцавана больш за 50 тысяч птушак. Дзякуючы кальцаванню стала вядома, што ластаўкі, буслы, чаплі, якія летам жывуць у Беларусі, на зіму адлятаюць у Афрыку і зімуюць у Конга, Радэзіі, Эфіопіі. Шпакі нашы зіму праводзяць на ўзбярэжжы Міжземнага мора: у Італіі, Францыі, Іспаніі, а таксама ў Паўночнай Афрыцы, у Тунісе, Алжыры, Марока. Шэрая мухалоўка знойдзена на зімоўцы ў Партугаліі, гракі -- у Бельгіі, Галандыі, Германіі, а маленькая пеначка адлятае нават у Індакітай. Кажаны, якія летам жывуць у Беларусі, зімуюць у Аўстрыі, Венгрыі, Румыніі. У насякомаедных птушак і кажаноў акрамя шляхоў супадаюць і тэрміны пералётаў. У Румыніі, напрыклад, назіраліся тысячныя чароды кажаноў, якія ляцелі на поўдзень разам са стрыжамі.

Жоўтае, бурае, чырвонае, карычневае і аранжавае лісце ціха апускаецца на зямлю. Халадае.

А. КУРСКОЎ



*Наталля і Марлена вяртаюцца з матуляй з Беластока дамоў, у Адногу.* Фота М. Лукшы

## ГЭТА ЦІКАВА

Лес расце доўга. Не дзесяцігоддзямі, а стагоддзямі. Жыццё ў дрэў у многа разоў даўжэйшае, чым жыццё чалавека. У нашых лясах найбольш даўгавечны дуб, але і іншыя дрэвы і кусты могуць жыць таксама вельмі доўга. Напрыклад, ядловец жыве 2000 гадоў, ліпа, каштан -- 1000, бук -- 700, сасна -- 600, елка -- 500, шыпшына -- 400, бяроза -- 400, вольха -- 300, таполя -- 200, асіна, рабіна, арэшнік -- 100 гадоў.

*БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ*

## ГУСІ ЛЯЦЯЦЬ

Калі маленькія дзеці застаюцца дома з падлеткамі, іх забаўляюць такою гульнёю: усе ставяць указальныя пальцы на стол, у адно месца. Тады старэйшы кажа:

-- Гусі ляцяць! -- і падымае руку ўгору, паказваючы, як гусі ляцяць.

Дзеці адказваюць: "Ляцяць!" -- і таксама падымаюць рукі.

-- Качкі ляцяць!
-- Ляцяць!
-- Вераб'і ляцяць!
-- Ляцяць!
-- Шчупакі ляцяць!

Захапіўшыся, дзеці часта адказваюць:
-- Ляцяць! -- і падымаюць рукі.

Старэйшы б'е па руках і крычыць:
-- Не ляцяць, не ляцяць!

Потым ізноў ад пачатку:
-- Гусі ляцяць! Вароны ляцяць! Сарокі ляцяць! Каровы ляцяць!

Але навучаныя вопытам дзеці ўжо не падымаюць рук на словы "каровы ляцяць" і маўчаць. Тады старэйшы зноў кажа:

-- Гусі ляцяць! Лебедзі ляцяць! Салаўі ляцяць! Дубы ляцяць! і г.д.

Гэты своеасаблівы ўрок прыродазнаўства канчаецца тады, калі ўвага дзяцей аслабляецца і яны абы-калі пачынаюць падымаць рукі.

## АПОШНІ ЎЗЛЁТ ЧАПЛІ

Я сяджу з вудачкамі на беразе ракі.

Над спакойнай роўняддзю бірузовай вады гулліва носяцца ластаўкі-беражанкі. Яны пралятаюць над самымі вудачкамі, амаль дакранаючыся да іх попельнымі крыльцамі.

Шмат ластавак сабралася на заканце дня. Перш чым ляцець на ноч у густы лазняк за ракой, яны яшчэ доўга купаюцца ў пасвяжэлым паветры, напаўняючы наваколле мяккім шчабятаннем.

Гэта быў цудоўны надвячорак. Усё жывое на рацэ радавалася яго спакою і цеплыні. У хмызняку за ракой нязмоўкла трашчалі чарацянкі-цвыркуны, цокалі лугавыя чэканы, у атаве заўзята крычала перапёлка: піць-палоць, піць-палоць. Час ад часу на паверхні вады ўтвараліся вялікія і малыя кругі -- гуляла рыба.

Нават чапля -- гэтакая нязграбная і панурая птушка -- і тая, узняўшыся на галавакружную вышыню, пачала там весела куляцца.

Здараецца іншы раз, што курыца раптам возьме ды і заспявае пеўнем. Такую курыцу абавязкова чамусьці рэжуць. Калі чалавек робіць штонебудзь такое надта нязвыклае для ўсіх, яго папярэджваюць: "Глядзі, наспяваеш на сваю галаву, як тая курыца". Маўляў, наклікаеш на сябе бяду.

Нешта падобнае здарылася і з чапляй. Раптам з-за вялікага дуба, што стаяў па той бок ракі, вынырнуў сокал-сапсан.

Гэты люты драпежнік звычайна забівае сваю ахвяру на ляту і нясе ў гняздо. Калі ж ахвяра дакранулася зямлі або вады, сокал ніколі не падыме яе.

Убачыўшы грознага драпежніка, чапля разгублена замітусілася.

Сокал з хуткасцю маланкі прамільгнуў каля яе, і з беднай птушкі, нібы з той распоранай падушкі, паляцела ўніз пер'е.

Чапля, сударгава ўзмахнуўшы крыламі, пачала падаць уніз, да вады. Сокал развярнуўся, яшчэ раз праляцеў каля птушкі, але браць яе чамусьці не стаў, адляцеў убок.

Я пачаў таропка распранацца, каб дапамагчы бедалазе. Але птушка разы са два вынырнула на паверхню вады і назаўсёды знікла ў бездані Бярэзіны.

І цудоўны надвячорак неяк разам пабляк, згубіўшы сваю ранейшую прывабнасць і хараство.

РЫГОР ІГНАЦЕНКА

*ВІКТАР ШНІП*

### ХІТРУХА

Плача, плача Веранічка:
-- Працаваць не маю звычкі.
Прыбяры ды прыбяры,
Лепш гуляцца мне ў двары.
Там не трэба прыбіраць,
Можна ўсё параскідаць.
Вы на двор мяне пусціце,
Есці ж торцік -- пазавіце.

### СКАРАГАВОРКІ

У кашы мурашы
З шэранькаю мышкай
Шаршацелі шышкай:
-- Шы-шы-шы, шы-шы-шы...

* * *

Бабёр другой не меў марокі,
Чым у сарокі браць урокі,
Як добрыя рабіць драбіны
З вярбіны шэрай і рабіны.

### СВЯТА Ў МЯДЗВЕДЗЯ

Грук-грук... Па лясной дарозе
Едуць зайчыкі на возе.
Пабылі на кірмашы,
Мёд купілі ў гладышы.
Запрасіў мядзведзь дахаты --
У яго сягоння свята.
Хочаш не, а хочаш вер --
Тры гады яму цяпер.
Хай на свята ў асалоду
З гладыша паесць ён мёду.

### НАШ МАКСІМ

Наш Максім гаворыць: -- Гу!
Гэта значыць: -- Я магу!
Што ж наш можа немаўля
Нам раскажа ён пасля,
Бо цяпер гаворыць нам:
-- Мама, ам, дай, мама, ам!

### ГАСЦІННЫ КАМАР

Жыў пад лісцікам камар,
Меў камарык самавар.
Запрашаў у госці ўсіх
Мушак і жучкоў малых.
Частаваў гасцей гарбаткай
І малочнай шакаладкай.
Запрасіў і Веранічку,
Даў чырвоную сунічку
І наліў і ёй гарбаткі.
Толькі плача Веранічка --
Не хапіла шакаладкі!
Наш камарык пагудзеў
І ў Валожын паляцеў.
Каб усё было ўпарадку,
Купіць плаксе шакаладку.

### ПАПУГАЙ ГОША

Гавару я папугаю:
-- Папугайка-папугай,
Ты за мною паўтарай.
Я харошы, я харошы...
Ды сваё гаворыць Гоша:
-- Дай арэх, дай арэх!
-- Што за невук, проста смех.

### ЖУК МАРАХОД

Жук на лісціку сядзіць
І ў вусы сабе гудзіць:
-- Жу-жу-жу! Жу-жу-жу!
Не баюся я дажджу!
І як дождж з хмурын паліў
Жук на лісціку паплыў:
-- Я не жук, я -- мараход,
Лісцік мой -- мой параход.
Жу-жу-жу! Жу-жу-жу!
Не баюся я дажджу!

* * * * * * * * * * * * *

*СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН*

### ЗАЦІКАВІЎСЯ

Суслік тоўк у ступе мак.
Аж пачуў у рэчцы рак:
-- Што ты робіш, дарагі?
-- Мак таўку на пірагі!

### ВАРТАЎНІК

Свой багаты агарод
Аглядае Васька - кот,
Стаў баяцца яго крот --
І не лезе ў агарод!

### ДАПАМОГ

Плача, плача хамячок,
Забалеў у яго бачок,
Спачуваць прыйшоў бычок --
Малачка прынёс глячок.

## КАМЯНЕЦ

Даўней камяні лічылі жывымі істотамі. Нашы прашчуры думалі, што яны, гэтаксама, як і людзі, здольныя жыць і размнажацца, і таму камяням ніколі нічога благога не рабілі. Болей таго, тым, што вылучаліся сваёй аграмаднасцю, незвычайнай формай ці адбіткамі слядоў, пакланяліся. Такія камяні абагаўлялі, прыносілі ім ахвяры, з імі звязваліся прыгожыя самабытныя легенды і паданні.

Адзін з такіх камянёў ляжаў там, дзе сёння горад Камянец. Людзі з навакольных вёсак заўсёды прыходзілі да яго, калі трэба было аб нечым параіцца, папрасіць дапамогі, але найчасцей звярталіся, калі не хапала хлеба, падчас голаду. Многа камень не даваў, але бохан-другі абавязкова з'яўляўся пад раніцу на яго паверхні. Для гэтага трэба было прынесці каменю невялікую ахвяру ці паднашэнне і прашаптаць магічна-таямнічыя словы: "Камень-камянец! Дай мне на заўтра хлябец! Цяжка стала жыць -- дзяцей няма чым карміць!" Зрабіў усё згодна канонам і можаш смела кіраваць дамоў, а назаўтра прыходзіць па хлеб. Доўга гэтак дапамагаў камень людзям, выручаў не раз і не два. Але аднаго дня здарылася бяда.

Жыў у бліжняй вёсцы злы знахар, які зайздросціў таму, што ўсім камень дапамагае, акрамя яго, і вырашыў ён зрабіць назло людзям. Прыйшоў пад вечар, каб ніхто не бачыў, не прынёс каменю прашэння, не звярнуўся ласкава з традыцыйнымі словамі, а мовіў: "Камень-каменіска! Аддай сваё залаціска! Яно ў цябе ляжыць, а мне будзе добра жыць!" Пачуў камень такую просьбу і праваліўся ад абурэння разам са знахарам. Прыйшлі людзі раніцою, а каменя няма, толькі глыбокі-глыбокі калодзеж са сцюдзёнаю вадою... З таго часу толькі назва і засталася -- Камянец. Пазней людзі там жыць сталі. Горад утварыўся.

**АЛЯКСЕЙ НЕНАДАВЕЦ**

## ПРА КАРАСЯ

Ты, відаць, думаеш, мой маленькі сябар, што рыбы не ўмеюць гаварыць? Яшчэ як умеюць! Толькі яны вельмі маўклівыя. А маўчаць вось чаму.

Даўным-даўно жыў на свеце Карась. І быў ён такі цікаўны, што да ўсіх прыставаў з пытаннямі. Падплываў да мамы і пытаў:

-- Мама, а чаму мы жывём у вадзе?

Мама пляскала яго хвастом і маўчала.

Тады Карась плыў да бацькі і пытаў у яго:

-- Тата, а чаму ты не лятаеш над вадою?

Бацька пакрыўджана адварочваўся і таксама маўчаў, бо лічыў, што лепш за ваду нічога няма і не можа быць на свеце.

А цікаўны Карась плыў далей і ў кожнага, каго сустракаў, што-небудзь пытаў.

У дзядзькі Вугра пытаў, чаму дзядзька Вугор такі доўгі.

У дзядулі Рака -- чаму той ходзіць задам наперад і ці не замінаюць яму вялікія клюшні. Дзядуля Рак хаваўся ў нару і таксама маўчаў.

Аднойчы Карась убачыў старога мудрага Шчупака. Яму вельмі захацелася даведацца, навошта шчупаку такія вострыя зубы.

-- А чаму гэта цябе цікавіць? -- запытаў Шчупак.

Задумаўся Карась. А і сапраўды, чаму? І пакуль ён думаў, Шчупак -- хоп! -- і праглынуў Карася.

З таго часу карасі нікога ні пра што не пытаюцца, а лічаць за лепшае маўчаць і хавацца ад шчупакоў. Астатнія рыбы таксама маўчаць. Ім няма калі размаўляць -- хапае іншага клопату.

Вось так і жывуць рыбы моўчкі. Толькі зрэдку, калі трапіцца якая-небудзь на кручок і спрытны рыбак выцягне яе з вады, рыба пачынае прасіць, каб той адпусціў яе назад. Але ніхто не разумее рыбінай мовы, а таму думаюць, што яна проста хапае ротам паветра.

**СЯРГЕЙ ТАРАСАЎ**



*Малая памочніца.* Фота М. Лукшы




Маці: -- Ты змяніла ваду ў акварыуме?

Дачка: -- Не, рыбкі яшчэ не выпілі тую, што я ім раней наліла.

* * *

Да тэлефона падышоў маленькі хлопчык.

-- Бацькі дома?

-- Не.

-- А ёсць хто небудзь іншы?

-- Мая сястра.

-- Перадай ёй трубку.

Прайшло шмат часу, аж хлопчык зноў узяў тэлефонную трубку:

-- Я не магу сам дастаць яе з каляскі!..

* * *

Гарадскія дзеці:

-- Няня, паглядзі, якія прыгожыя баранчыкі!

-- Але ж гэта не авечкі, а свіні.

-- Чаму ты так на іх брыдка кажаш?!

* * *

-- А што, Янук, спадабалася табе новая настаўніца?

-- Яна, мама, нічога сабе, маладая і прыгожая. Але, здаецца, недавучаная, бо пра ўсё пытаецца ў нас!

* * *

-- Што здарылася, хлопчык? -- спачувальна спытаў дзядзька. -- Ты, здаецца, заблудзіўся?

-- Не, -- пачуўся мужны адказ. -- Я не заблудзіўся, толькі мае мама і тата!

**ЯНКА ПАДАРОЖНІК**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК І БРАЦІК

Неяк выконвала мышка Пік-Пік свой галоўны абавязак: ляжала ў норачцы на канапе і пераварвала ў жывоціку смачны абед. Скрозь салодкую драму да мышкі даносіліся прыглушаныя галасы Мамы і Таты. Паступова Пік-Пік пачала прыслухоўвацца да таямнічай размовы. І раптам сонная лянота ўраз адляцела ад мышкі. Што яна даведалася! У Веранічкі хутка будзе брацік! Невядома, скуль ён возьмецца, але гэта будзе натуральны хлапец, які пасяліцца ў Веранiччыным пакойчыку, побач з шафай, пад якой яе, мышчына, норка! Які жах! О! Пік-Пік добра ведала, што такое хлопчыкі, бо яны нярэдка прыходзілі сюды ў госці разам з татамі і мамамі! Як гаварыла Маміна знаёмая цётка, усе хлопчыкі створаныя па аднаму рэцэпту: шмат крыку і тлуму ў абалонцы з гразі. І гэтае пачварнае стварэнне хутка будзе бегаць па кватэры, есці мышчыны цукеркі і ламаць Веранiччыны цацкі?! А потым, як усе хлопчыкі, захоча пагл ядзець, што ў мышкі ў норцы, ды і злавіць яе самую, пасадзіць у клетку... Не, страшна гэта нават і ўявіць!..

Мама і Тата даўно выйшлі з пакоя, а мышка ўсё сядзела і думала. Нарэшце, надзьмуўшыся, Пік-Пік выпаўзла з норкі і пабрыла ў залю. Там Веранічка глядзела мульцікі.

-- Прывітанне, Пік-Пік! Чаго гэта ты такая засмучоная? -- папыталася Веранічка.

-- А ты што, не здагадваешся? У цябе хутка з'явіцца брацік! -- трагічна абвясціла мышка.

-- Ну і што? -- здзівілася Веранічка. -- Гэта ж цікава! Я буду з ім гуляцца.

-- Гуляцца?! Ха-ха! -- усклікнула мышка. -- Жыцця ты не ведаеш! Прыйдзе хлопчык, паесць цукеркі, паламае твае цацкі і будзе нас з табою з кута ў кут ганяць!

-- Ды не можа быць! -- засмуцілася Веранічка. -- Мама ж казала, што брацік будзе зусім маленькі...

Але і ў Веранічкі настрой сапсаваўся. А тут яшчэ Маму забралі ў бальніцу...

-- Ну, Веранічка! Вось у цябе з'явіўся брацік! -- весела абвясціў назаўтра Тата. -- Хутка прывязем яго дадому.

Тата з Веранiччынай бабуляй пачалі рыхтавацца да прыёму важнага госця: памылі стары Веранiччын ложачак, каляску, пакупплялі пялюшак... Нарэшце, калі мышка Пік-Пік і Веранічка ўжо падрыхтаваліся да горшага, у кватэру ўвайшла Мама з маленькім белым скрутачкам на руках.

-- А дзе ж брацік? -- здзівіліся мышка і Веранічка. А маленькі скрутачак раптам сказаў:

-- У-а-у-у -- у-а-у-у-у!

-- Гэта наш Максім! -- растлумачыла Мама і паказала скрутачак Веранічцы. Мышка ўскараскалася на Веранiччын плячук і таксама зазірнула ў скрутачак. А адтуль выглядаў маленькі ружовы тварык з кулачок на веліч. Раптам на тварыку расплюшчыліся вочкі і ўтаропіліся невядома куды.

-- Гэта і ёсць хлопчык? -- здзівілася мышка. -- А чаму ён нічога не гаворыць?

-- Не ўмее, -- растлумачыла Мама.

-- А бегаць ён умее?

-- Не, нават хадзіць не ўмее.

-- А што ён будзе есці?

-- Малачко.

-- Адно малачко? -- не паверыла Пік-Пік. -- А цукеркі? А пячэнне?

Мама засмяялася:

-- Гэта ўсё ён будзе есці толькі на наступны год. А пакуль яму патрэбна толькі малачко, і тое нямнога...

-- Ну, калі так... -- супакоілася мышка. -- Калі так, няхай Максім жыве з намі. Не страшна.

-- А мне дык ён вельмі падабаецца, -- сказала Веранічка.

І Мама панесла брацiка ў ложачак, а мышка пабегла на кухню, есці цукерачкі.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**




### ПАНЯДЗЕЛАК, 6 ВЕРАСНЯ

16.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 6-ы клас. „Песня — душа народа" (беларускія народныя песні ў літаратурным чытанні). 16.30 Навіны. 16.40 „Дом для кузькі". Мультфільм. 17.00 „Спасціжэнне ісціны". 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Брэст). 18.10 Пасля юбілею. Менскае мастацкае вучылішча. 18.55 Незнаёмыя знаёмцы. Духавы аркестр Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Спартыўны тэлекур'ер. 21.05 Т. Ружэвіч. „Картатэка". Спектакль Менскага тэатра. 22.25 НІКа.

### АЎТОРАК, 7 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Ганчарны круг", „Чувашскія ўзоры". Тэлевізійныя дакументальныя фільмы. 8.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 6-ы клас. „Песня — душа народа" (беларускія народныя песні ў літаратурным чытанні). 8.30 „Па-дэ-дэ з балета „Баядэрка". Фільм-канцэрт. 8.45 „Старэйшы сын". Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 11.00 „Рок-айленд шоў". Музычная праграма з удзелам беларускіх рок-гуртоў. 12.30 Навіны. 12.40 „Добрая казка", „Давай мяняцца". Мультфільмы. 13.05 „Заезны дом сярод узгоркаў". Мастацкі фільм (Румынія). 14.45 Сізбар-топ-10. 15.45 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. „Францыск Скарына — беларускі першадрукар". 16.30 Навіны. 16.40 „У дэльце Ілі", „Як справы, запаведнік?". Тэлевізійныя дакументальныя фільмы. 17.20 Тэлевізійная дошка аб'яў. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Віцебск). 18.10 „Усё жыццё мяне песня вядзе". Заслужаная артыстка Беларусі Ганна Радзько. 19.05 „Жылі-былі людзі". Дакументальны фільм. 19.25 „Церніца". Фільм-канцэрт. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". Шматсерыйны мастацкі фільм. 21.15 Кінанастальгія. „Раманс пра закаханых". Шырокаэкранны мастацкі фільм. 11.10 НІКа.

### СЕРАДА, 8 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 Праграма перадач. 7.25 192Маці чалавечая". Тэлевізійны дакументальны фільм. 8.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 9-ы клас. „Францыск Скарына — беларускі першадрукар". 8.40 „Дзяжурная аптэка". Шматсерыйны мастацкі фільм. 9.10 Кінанастальгія. „Раманс пра закаханых". Шырокаэкранны мастацкі фільм. 11.05 І „зорка" з „зоркаю" гаворыць... Шоў-праграма. 12.30 Навіны. 12.40 „Мацней за ўсе іншыя наказы". Мастацкі фільм. 14.20 „Чаплініяна". Фільм-балет. 15.25 Відзьма-нявідзьма. Навіны кінавідэа-аўдыё. 16.30 Навіны. 16.40 „Бярэсце. Сустрэча з мінулым". Дакументальны фільм. 17.00 „Незнаёмая песня". Кароткаметражны фільм. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гомель). 18.10 ТА „Рэха". Рэйтынг. 18.30 Топ-агент. Музычная праграма. 19.00 Дабрадзея. Людзі вёскі Дзічкі і іх лёсы. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". Шматсерыйны мастацкі фільм. 21.15 „Мацней за ўсе іншыя наказы". Мастацкі фільм. 22.50 НІКа.

### ЧАЦВЕР, 9 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Флейта", „Школьная аперэта". Тэлевізійныя дакументальныя фільмы. 8.15 „Дзяжурная аптэка". Маст. фільм. 8.45 ТА „Рэха". Рэйтынг. 9.05 „Няскончаная вячэра". Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 11.15 „Насіба". Фільм-канцэрт. 11.55 Спартыўны стыль. 12.30 Навіны. 12.40 „Па дарозе з воблакамі", „У сінім моры, у белай пене..." Мультфільмы. 13.00 „Доўгі дзень вясны...". Музычны фільм. 13.40 „Турбаза „Воўчая". Мастацкі фільм. 15.10 Педагагічны экран. Другая міждзяржаўная алімпіяда школьнікаў па інфарматыцы. 15.25 Для школьнікаў. Скарбы беларускай гісторыі. 15.45 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 10-ы клас. „О, Беларусь, мая шыпшына..." (У. Дубоўка і яго творчасць). 16.30 Навіны. 16.40 „Аляксандр Вядзернікаў. Ціхая мая радзіма". Дакументальны фільм. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гродна). 18.10 Зачытайце маё пісьмо... 18.15 Здароўе. Тэлечасопіс. 18.45 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрвю. 19.00 Запрашае ансамбль народнай музыкі „Бяседа". 19.25 „Дзе лебедзі зімуюць". Кінанарыс. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". Шматсерыйны мастацкі фільм. 21.15 Творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок". 22.45 НІКа.

### ПЯТНІЦА, 10 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Брава, бравачкі". Фільм-канцэрт. 8.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 10-ы клас. „О, Беларусь, мая шыпшына..." (У. Дубоўка і яго творчасць). 8.40 „Дзяжурная аптэка". Шматсерыйны мастацкі фільм. 9.10 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 9.25 У згодзе і спрэчках з Мельпаменай. Дырыжор А. Анісімаў. 10.10 А. Цыгарэлі. „Ханума". Фільм-спектакль. 1-я і 2-я часткі. 12.30 Навіны. 12.40 „Сярод шумнага балю..." Фільм-канцэрт. 13.00 „Забойства на манастырскіх сажалках". Мастацкі фільм. 15.30 З далёкіх вандровак. Пра паездку ў Францыю расказваюць вучні СШ н-р 50 г. Менска. 16.30 Навіны. 16.40 „Эй, на лінкоры!". Кароткаметражны фільм. 17.20 Тэлевізійная дошка аб'яў. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 ПІК. Публіцыстычна-інфармацыйны канал для падлеткаў. Трансляцыя з Менскага палаца дзяцей і моладзі. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Спот-кадр". Крымінальная хроніка. 21.05 „Афіцыйная гісторыя". Мастацкі фільм (Аргенціна). 23.00 НІКа.

### СУБОТА, 11 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Афіцыйная гісторыя". Мастацкі фільм (Аргенціна). 9.20 Урокі здароўя. Аўтатрэнінг у нашым жыцці. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнародны агляд. 10.15 Паказвае Гомель. „Крыніца". Фальклорная праграма. 11.15 Мультфільмы. 11.35 Старонкі беларускай музыкі. Іграе заслужаная артыстка Беларусі І. Шуміліна (фартэпіяна). 11.55 Футбол. Чэмпіянат Беларусі. КІМ (Віцебск) — „Днепр" (Магілёў). 13.30 Карагод. Музычна-забаўляльная праграма з удзелам фальклорных калектываў. 14.30 Хрысціянская праграма. 15.00 Гандбол. Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў. СКА (Менск) — „Кехра" (Талін). 16.30 „Скарб-93". Фестываль талентаў. 17.40 Ало! Ёсць пытанне. Наш госць — дырэктар рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра пухлін шчытападобнай залозы, загадчык кафедры анкалогіі, доктар медыцынскіх навук, прафесар Я.П. Дзямідчык. Прамая лінія. 18.40 Сізбар-топ-10. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „Пунсовы першацвет" мастацкі фільм (Англія). 1-я серыя. 22.00 НІКа.

### НЯДЗЕЛЯ, 12 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Слова да чалавека. Звяртаецца прапаведнік хрысціянскай місіі Рык Рэнер. 7.55 Справы вайсковыя. Да Дня танкістаў. 8.40 „Шалёныя гропы". Мастацкі фільм. 10.05 Белыя і чорныя. Тэлевізійны шахматны клуб. 10.30 Конны спорт. Спаборніцтвы на кубак беларускай асацыяцыі па конегадоўлі. Ш этап Рэчыцкі саўгас-тэхнікум Гомельскай вобласці. 12.35 Вас выклікае Спартландыя. Таварыская сустрэча каманд школьнікаў Беларусі і Арменіі. 13.00 Гандбол. Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў. „Кехра" (Талін) — СКА (Менск). 14.30 Для дзяцей. Літарынка. 15.10 Кінаэкран-93. Верасень. 16.20 „Сабака ў ботах". Мультфільм. 16.40 „Мільён у шлюбным кошыку". Мастацкі фільм. 18.10 Запрашаем на вячоркі. „Жаніцьба коміна" ў вёсцы Пагост Жыткавіцкага раёна. 19.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.00 „Каскад". Кантакт. Інфармацыя. Рэклама. 20.20 „Пунсовы першацвет". Мастацкі фільм. 2-я серыя. 21.40 Відзьма-нявідзьма. Навіны Кіна-відэа-аўдыё.




Сніцца мне, што мы знаходзімся недзе ў ваколіцы Семяноўскага вадасховішча. Трэба нам набраць вады, а тут зямля дрыгвяністая, вада мулістая, ржавая. Нам вельмі хочацца напіцца, набіраем вады вядром, а там жывая, густая кроў. Я падумала, што мы дакапаліся да нейкіх могілак, бачу часткі цела.

— Ой, гэта ж жывыя людзі! — крычу. І сапраўды, з-пад зямлі пачынаюць выбірацца людзі, вельмі дзіўныя, відна, што яны быццам з іншага свету, жылі ўжо пад зямлёй, стараліся выбрацца. Гэтыя людзі хацелі выйсці дзесьці з-за Белавежскай пушчы, але не маглі прайсці мяжы, і прабраліся пад зямлёю. І яны выходзяць, страшныя, у крыві, з зямлістымі целамі, але жывыя.

Зіна

Даражэнькая Зіна! Твой сон вельмі цікавы, але, на жаль, нядобры. Нядобрае ў ім усё ад пачатку. Дрыгвяністая зямля, мулістая і іржавая вада не дазволілі вам набраць вады. Але вам вельмі хацелася піць і вы набралі вады вядром, а высветлілася, што там знаходзіцца кроў. І ўжо ў гэтым моманце справа праясняецца. Нешта ў тваіх справах разваліцца, будуць нейкія шкоды, а такія, што забаліць да жывога. Мо будуць непрыемнасці ад плётак.

Калі б высветлілася, што вы сапраўды дакапаліся да могілак, дык мо было б яшчэ някепска, бо могілкі абазначаюць здароўе і поспех, але ж там валяліся толькі кавалкі людскіх целаў, а пасля вы ўбачылі, як з-пад зямлі пачалі выбірацца пачварныя, страшныя, акрываўленыя людзі. Гэта ўжо нават небяспека! Могуць усе гэтыя непрыемнасці прыйсці з-за блізкай мяжы, бо адтуль жа выходзілі гэтыя людзі.

АСТРОН




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### КНЭДЛІ З ЯБЛЫКАМІ

Прадукты:
*0,5 кг яблыкаў,*
*0,25 кг белага сыру,*
*1 чайная лыжачка парашку для пячэння,*
*2—3 лыжкі мукі,*
*3 лыжкі цукру,*
*соль,*
*0,30 кг алею ці шмальцу.*

Яйкі расцерці, дадаўшы крышынку солі і сталовую лыжку цукру. Дадаць змолаты ў мясарубцы сыр, парашок і муку. Замясіць цеста.

Яблыкі абабраць, сцерці на бурачанай тарцы, перамяшаць з рэштай цукру. Цеста падзяліць на малыя кавалачкі. З кожнага кавалка зрабіць у далонях аладку, палажыць на яе яблыкі і сфармаваць шарык. Смажыць на патэльні, як пончыкі, у глыбокім тлушчы. Падаваць, пасыпаўшы цукровай пудрай.

ГАСПАДЫНЯ

## КРЫЖАВАНКА




**Управа**: 3. індыйскі чай, 8. месца за вёскай, дзе пасецца жывёла, 9. паўднёва-ўсходняя частка Італіі, 10. збудаванне для сена, 11. ахутвае шыю, 13. садовае дрэва з цёмна-чырвонымі костачкавымі пладамі, 14. часовая ізаляцыя хворых, 15. вялікая пасудзіна для вадкасцей, 19. рака і штат у ЗША, 21.савецкі шахцёр-перадавік, 22. жаночае імя, 25. Хуліо, аргенцінскі пісьменнік, 27. заканчэнне, 28. плоскі кавалак дрэва, 29. сход гараджан у старажытнай Русі, 30. напісаў „Жнівень слоў", 31. возера ў Фінляндыі, 32. верхняя канечнасць чалавека.

**Улева**: 1. балканская сталіца, 2. адна з частак жаночай прычоскі цыліндрычнай формы, 4. жыхарка Слуцка, 5. жаночае імя, 6. Іван, расейскі пісьменнік, 7. драпежная жывёла, якая корміцца пераважна мярцвячынай, 12. гульні з танцамі, найгучнейшыя ў Бразіліі, 13. пладовая павойная расліна, 15. жыве на поўначы Іспаніі, 16. кіславаты напітак, 17. павучанне, 18. ніжняя, расхільная частка адзежы, 20. Мікола, беларускі паэт, 23. французскі філосаф і матэматык (1596—1650), 24. індыйскі штат, 25. комплекс з'яў, якія ўзнікаюць пры растварэнні горных парод прыроднымі водамі, 26. горад у паўночна-заходняй Украіне, 27. глыбокая, віруючая вада.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 29 н-ра:**

**Упоперак**: джала, кабальера, траса, абруч, бан, талакно, экскурс, Ніш, козыр, санет, лесаахова, Осака.

**Уніз**: расліна, Дубна, апека, кракадзіл, афрыканка, траяк, чарот, Бон, Нэш, Ісфахан, Руско, слова.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

*МІНІ-ДАВЕДНІК*

**Карст** — сукупнасць з'яў (правалы, пячоры і інш.), якія ўзнікаюць ад растварэння горных парод прыроднымі водамі.




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1994 r. upływa 20 listopada 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Пакутнік** — чалавек, які ідзе да жаданай смерці па лініі найменшага супрацьўлення.

**Парада** — самая дробная манета.

**Патрыятызм** — лёгкае на загаранне смецце, якое ўжываецца, каб асвятліць імя чалавека. У знакамітым слоўніку доктара Джоўнза патрыятызм акрэслены, як апошняе прыстанішча нягодніка. Але мне больш падабаецца маё тлумачэнне.

**Паўстанне** — няўдалая рэвалюцыя, спроба замяніць дрэннае кіраўніцтва дрэнным урадам.

**Пахаванне** — цырымонія, удзельнічаючы ў якой з павагі да нябожчыка, мы ўзбагачаем трунара, што ўзмацняе нашыя стогны і плач.

**Пашпарт** — дакумент, які даецца чалавеку, што едзе за мяжу, каб вылучыць яго там, як чужынца, што ў сваю чаргу выкліча да яго пагарду.

*З англійскай пераклаў Алесь Кудраўцаў*

## ТОСТЫ

Ідзе па пустыні асёл. Ідзе дзень, другі, трэці, тыдзень... Жара надакучае. Раптам бачыць — стаяць дзве вялікія бочкі. У адной вада, а ў другой — гарэлка. Ну, і як думаеце, што ён стаў піць? Вядома ж, ваду.

Дык давайце ж не будзем мы асламі і вып'ем гарэлкі!

* * *

— Вып'ем за тое, каб падаражалі вінна-гарэлачныя бутэлькі!

## СЕНТЭНЦЫІ

Не шукай жару ў глыбе лёду,
а ў палыне — мёду.

* * *

Не калючкі — ружы цвет
заварожыў цэлы свет.

**БАРЫС РУСКО**

# НІЎКА




*Мал. В. Кліменкі*

# ІНЦЫДЭНТ

Жонка аматара экзатычных рыбак Капялюхава падала на свайго мужа скаргу па месцы работы.

„Прашу разгледзець паводзіны майго мужа Капялюхава Інакенція Валяр'янавіча. На мінулым тыдні ён невядома за што раззлаваўся на мяне і зняважыў, ужыўшы спецыфічны тэрмін".

— Які? — спыталі ў пакрыўджанай на пасяджэнні прафкома. — Можаце паўтарыць?

— Сорамна, аднак скажу, — паднялася з крэсла Капялюхава. — Ён абазваў мяне „тэтра лімонная".

— Гэта праўда? — спыталі ў Капялюхава.

— Было, — уздыхнуўшы, пацвердзіў той.

Пасля кароткай нарады нетактоўны ўчынак члена працоўнага калектыву быў аднадушна асуджаны. Прафком парэкамендаваў Капялюхаву на далейшае называць сваю жонку больш ласкава. Напрыклад „гурамі жамчужная".

**ВЯЧАСЛАЎ ГІЛЕВІЧ**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

На экзамене прафесар пытае студэнтку:

— Скажыце, калі ласка, якая розніца паміж студэнтам універсітэта, студэнтам політэхнічнага інстытута і трамваем?

— Паміж студэнтамі няма ніякай розніцы, а пад трамваем то я яшчэ не ляжала.

* * *

Гаспадар ляжыць у ложку і думае пра ашчаднасці. Глянуў на грудзі жонкі і кажа:

— Каб гэта было большае, каровы не трымалі б.

Жонка глянула на ягонага малога рабака і адказала:

— Каб гэта было большае, не трымалі б парабка.

* * *

Суддзя да мужа:

— Чаму вы хочаце развесціся са сваёю жонкаю?

— Таму, што яна цэлымі начамі ходзіць па рэстаранах.

— П'е?

— Не, яна мяне там шукае.

* * *

— Цешуся, малады чалавек, што хочаце ўзяць за жонку маю дачку. Перад гэтым хачу аднак сказаць, што на мінулым тыдні я збанкрутаваў і страціў усю сваю маёмасць.

— Калі так, не буду жаніцца. Быў бы зусім без сумлення, калі б у такой сітуацыі адабраў вам яшчэ дачку.

* * *

Старая бабуля даведалася, што ў краму прывезлі новыя прыгожыя бюстгальтары. Ідзе купіць і, каб не забыцца, паўтарае пад носам: бюстгальтары, бюстгальтары. Зайшоўшы ў краму, пабылтала назву і гаворыць прадаўшчыцы:

— Патрэбны мне бухгалтар.

— Бабулька, бухгалтары ёсць у банку, — пачула ў адказ.

Прыйшла яна ў банк, падыходзіць да акенца і пытае:

— Ці ёсць бухгалтары?

— Не, выехалі; ёсць толькі начальнік.

— Можа быць і начальнік, абы добра на цыцках ляжаў.

Даслаў **АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## ПЛАЧ У ГАЙНАЎЦЫ

22 ліпеня гэтага года каля 21-ай гадзіны ў Гайнаўцы былі ўкрадзены невядомымі злачынцамі джынсы аднаго з журналістаў нашай рэдакцыі. Нагавіцы былі забраны з балкона, дзе яны сушыліся. Пакрыўджаны мяркуе, што пройдзе яшчэ крыху часу і ў Гайнаўцы нагавіцы будуць абдзіраць са сракі ў белы дзень.

* * *

Ягонае меркаванне апраўдвае іншы гайнаўскі выпадак з таго самага месца. Каля дзевятай гадзіны вечара — тады зусім яшчэ відна — выйшаў чалавек з працы з фірмы „Furnel", што насупраць скверыку ў цэнтры горада. Падышлі да яго тры падлеткі, адзін з якіх папрасіў агню. Калі чалавек засунуў руку ў кішэню, за запалкамі, у вачах яго засвяцілася. У момант адчуў другі ўдар — у бараду. За ім другі, трэці... Апошняе, што запамятаў, гэта тое, як ляжаў на тратуары, а яго маціцілі нейкія боты — у жывот, у грудзі, дзе папала. Ачнуўся ён у шпіталі, дзе і праваляўся, з адбітым нутром, цэлае лета.




*З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ*

## НОВЫЯ ПРЭТЭНДЭНТЫ

Аказваецца, што на паўночнае Падляшша — паўднёвую частку Беластоцкага ваяводства паміж Бугам і Нарвай — прэтэндуюць не толькі бельскія ўкраінцы. На рэпрадукаванай побач карце (друкавалася яна ў тыднёвіку „Polityka" н-р 32 ад 7 жніўня г.г.) бачым, што тэрыторыю вакол Сямяціч, Бельска і Гайнаўкі сваёй палічыў таксама Мыкола Шыляговіч — аўтар ідэі дзяржавы **„Полісье"**, які дамагаецца прызнаць палешукам правы самастойнай нацыі.

Хто затым будзе чарговым прэтэндэнтам на згаданыя землі? Палаўцы???

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Прайшло лета, ад якога я спадзявалася многага. Лета заўсёды прыносіла мне розныя неспадзяванкі. Я маю на думцы, вядома, прыемнасці эратычнага характару. Вядома ж, паедзеш кудысьці адпачываць і спаткаеш цікавага чалавека, а то хтось на канікулы дахаты прыедзе, дык таксама ў нас моладзі шмат.

Мушу табе прызнацца, што мне ўсяго дваццаць гадоў і занадта шмат хлопцаў у мяне не было, аднак жа некаторы вопыт я ўжо маю. Я працую сакратаркай амаль год, і за гэты час перад маімі вачыма прайшло нямала людзей.

Мястэчка ў нас невялікае, але наша даволі вялікае прадпрыемства прыдае яму непаўторны каларыт. Цяпер прыязджае да нас шмат бізнесменаў, нават з-за граніцы, і я спадзявалася, што гэта будзе для мяне вельмі цікавае лета. Нават з вялікай нецярплівасцю чакала я яго.

А як выйшла... дык, лепш не гаварыць. Прыязджалі людзі, былі з Расіі, Германіі, з Аўстрыі. Неяк усё гэта былі культурныя людзі, паважныя, калі здаралася быць з імі ў кампаніі, была... Еўропа.

Але трапіўся адзін, не цалкам... еўрапейскі. Быў ён з глыбокай Расіі, папольску нічога не разумеў, і мой шэф выrашыў, што я (добра ведаю рускую мову) буду для яго найлепшай апякункай і праваднікам.

Я вельмі ахвотна згадзілася, бо, зрэшты, няраз ужо гэта рабіла. У нейкай ступені такі занятак уваходзіў у мае службовыя кампетэнцыі.

Неяк адразу гэты госць мне не спадабаўся як мужчына. Быў даволі малады, у меру статны, ні брыдкі — ні прыгожы, не смярдзела ад яго потам, а вось жа не спадабаўся. Нягледзячы на гэта, я вельмі сур'ёзна падышла да сваіх абавязкаў, якія даручыў мне мой начальнік. Завезла ў гатэль, пасля ўсюды яго вадзіла у вольныя хвіліны, паказвала, як мы жывем, бывалі ў рэстаране. У кабінеце шэфа падрыхтавала міні-прыём у яго гонар. Усё рабілася для бізнесмена, з якім мы мелі падпісаць кантракт.

Я думала, што ён гэта ўсё вельмі добра разумее, і будзе адносіцца да мяне стрымана, так, як і я да яго. Відаць, аднак, не з ім была такая „забава". Прыйшоў аднойчы да мяне на працу з паўлітрам. Ну, выпілі, зайшоў яшчэ нехта з калег. Пасядзелі. Пасля калегі дыскрэтна выйшлі. Я таксама думала ўжо збірацца, але дзе там, пачаў лезці да мяне з пацалункамі, цягнуць да сябе ў гатэль, абяцаючы там экстрапачастунак. Мне стала агідна. Няўжо гэты чалавек не мае вачэй, думалася мне. Ці ж ён не бачыць, што ён мне абыякавы?

Назваў мяне шэльмаю. Я бачу, кажа, што ты некага маеш, інакш бы пайшла да мяне! А што, не магу кагосьці мець?! А зрэшты, калі нават і не маю, дык не мушу лезці ў пасцель да першага напатканага! Што служба — то служба.

Але так я толькі гаварыла яму. Я ведаю, што калі б ён мне хаця крыху падабаўся, я б не глядзела на тое, што нашы адносіны — толькі службовыя. Той прыкры дзень згідзіў мне ўсё лета. Сумная з'ява, праўда, Сэрцайка?!

**Ліля**

Ліля! Сумная з'ява, але здараецца даволі часта. У каханні таксама трэба быць добрым майстрам (у прэлюдыі — асабліва). Трэба ўмець падысці да дзяўчыны, адчуць яе адносіны да хлопца, мець упэўненасць, што не адмовіць, і толькі тады ўжо „лезці". Ды і то далікатна.

**СЭРЦАЙКА**